# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ОРГАН БЕЛАРУСКАИ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Druck: „LOGOS". Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H. München 8, Rosenheimerstr. 46 a.

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA" München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

№ 20 (151) Нядзеля 17 травеня 1953 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 7

# Ілюзіі разьвейваюцца

Захапленьне й энтузіязм на Захадзе, якія былі выкліканыя мірнымі гэстамі новых уладароў Крэмля й абнадзейвалі ня толькі народныя масы, але й палітыкаў і дзяржаўных мужоў Заходняй Эўропы, пачалі апошнім часам астываць гэтак-жа раптоўна, як і паявіліся. Далейшае захоўваньне Саветаў наяўна паказала, што ўсе тыя запэўненьні Крэмля аб мірнай палітыцы Савецкага Саюзу, аб магчымасьцях мірнага сужыцьця абедзьвюх сыстэмаў — камуністычнай і капіталістычнай, аб тым, што ўсе спрэчныя пытаньні можна разьвязаць шляхам узаемных перагавораў, і г. п. былі толькі словамі, патрэбнымі Маскве для розных палітычных і прапагандовых мэтаў. Былі гэта пустыя словы, якім не адказвалі адначасныя чыны й іх выразна запярэчвалі.

## ПАДЗЕІ Ў КАРЭІ Й ІНДАКІТАІ

Гэтая супярэчнасьць паміж мірнымі прапановамі Савецкага Саюзу й ягонымі чынамі наймацней зарысавалася на фронтах гарачае вайны ў Карэі й Індакітаі. Вымена хворых і раненых ваеннапалонных, нядаўна праведзеная ў Карэі на прапанову камуністых, у сваей істоце яшчэ ня можа пацьвярджаць мірных намераў Масквы, тым больш, што за аднаго палоннага жаўнера збройных Сілаў Задзіночаных Нацыяў камуністыя атрымалі звыш дзесяцёх сваіх жаўнераў, а пры гэтым шмат выйгралі й прапагандова сярод наіўных грамадзянстваў вольнага сьвету. Мы ўжо аднойчы пісалі, што калі-б, прыкладам, навет і дайшло да перамір'я ў Карэі, дык і гэты крок камуністых ня мог-бы сьветчыць аб іхнай адмове ад агрэсіі, бо, як падчыркнуў прэзыдэнт Айзэнгаўэр у ведамай сваей прамове, Карэя ня можа быць разгляданая ў вадарваньні ад усяе Азіі й перамір'е ў Карэі мусіла-б за сабой пацягнуць спыненьне камуністычнай агрэсіі ў Індакітаі й Маляі, чаго, як паказваюць апошнія выпадкі, камуністыя рабіць ня зьбіраюцца. Мы тады таксама пісалі, што камуністыя могуць шчыра жадаць заканчэньня вайны ў Карэі, але толькі ў Карэі, якая ім вялікай карысьці ня прыносіць; наадварот, у выпадку прадпрыняцьця Амэрыкай больш станоўчых крокаў як у Карэі, гэтак і супраць Кітаю, гэты апошні мог-бы апынуцца ў вельмі нявыгадным і клапатлівым палажэньні. Але, здаецца, камуністыя, дзеючыя за інструкцыямі Масквы, ня маюць на мэце спыненьня вайенных дзеяньняў на карэйскім фроньце. Аб гэтым сьветчыць іхная няўступлівая пазыцыя ў справе вымены ваеннапалонных, якая праяўляецца ў перагаворах аб перамір'і ў Панмунджоне, узноўленых нядаўна на прапазыцыю камуністых. Высоўваньне камуністымі абсурдальных і немагчымых да прыняцьця праектаў у справе ваеннапалонных, што адмовяцца ад рэпатрыяцыі, паказвае, што не аб дасягненьне перамір'я ім ходзіць, а толькі аб скарыстаньне на часе і чыста прапагандовых карысьцях.

Яшчэ больш паказальнымі зьяўляюцца выпадкі ў Індакітаі. Камуністычныя фармацыі Го-Чы-Міна, апанаваўшы вялікую часьць тэрыторыі Ветнаму, цяпер напалі на каралеўства Ляёс, што таксама, як і Ветнам ды Камбоджа, знаходзіцца пад пратэктаратам Францыі, а насельніцтва якога настроена антыкамуністычна й ляяльна да Французаў, апанавалі звыш аднэй трэйцяй тэрыторыі гэтай краіны і, паўстрымаўшыся часова ад заатакаваньня сталіцы Люянг Прабанг, накіраваліся ў кірунку Сыяму, ад граніцы якога ў дзень напісаньня гэтага артыкулу знаходзіліся толькі 35 кілямэтраў. Такім чынам і гэтая краіна, а таксама і ўспомненая Камбоджа, зьяўляецца непасрэдна загрожанай камуністычнай агрэсіяй. Індакітай, як і сумежныя зь ім краіны, сталіся тэатрам ваенных дзеяньняў, значэньне якіх сяньня ня меншае, а, на думку некаторых Амэрыканцаў, навет большае, чымся вайны ў Карэі. Вынікі індакітайскіх падзеяў могуць быць яшчэ больш грозныя й небясьпечныя ў выпадку, калі ня ўдасца Захаду паўстрымаць і адкінуць назад камуністычных войскаў Ветміну. Францыя. якая на працягу апошніх сямі год уважала выпадкі ў Індакітаі сваей нутранай справай і высказвалася супраць інтэрнацыяналізацыі гэтае вайны, сяньня, апынуўшыся ў вабліччы сур'ёзнай небясьпекі і ня чуючыся на сілах самой паўстрымаць камуністычнай агрэсіі, ужо дамагаецца, каб, падобна як у Карэі, цяжар гэтай вайны ўзялі на сябе й іншыя запрыязьненыя зь ёй дзяржавы Задзіночаных Нацыяў.

Камуністычная агрэсія ў Індакітаі, найбольшае насіленьне якой зьбеглася якраз із слоўнай афэнзывай за мір Саветаў, як ня трэба лепей паказвае, што салодкія словы крэмлёўскіх верхаводаў аб міры й прыязьні — гэта адно, а іхныя агрэсыўныя чыны — зусім другое. Яна сталася вядром ацьвяражаючай халоднай вады на распаленыя аптымістычнай надзеяй і захапленьнямі савецкай мірнай палітыкай галовы многіх наіўных палітыкаў Захаду, у тым ліку й Францыі, якая дагэтуль адна несла цяжар гэтае вайны і якая, як гэта не парадаксальна, найбольш верыць у добрыя намеры Савецкага Саюзу й найбольш працівіцца станоўчай палітыцы супраць яго.

## ПЕРАЛОМНАЕ ЗНАЧЭНЬНЕ ПРАМОВЫ АЙЗЭНГАЎЭРА

Мы ў свой час на гэтым месцы пісалі, што мірныя прапановы прэзыдэнта Айзэнгаўэра ў ягонай прамове з 16 красавіка сёлета змусяць крэмлёўскіх дыктатараў раскрыць свае карты. І гэта ім зрабіць ужо прыйшлося, у чым і выявілася вялікая палітычная роля мірнай

(Заканчэньне на 2-ой балоне)

# Памяшаньне паняцьцяў аб фэдэралістых

Старшыня Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму адмірал Стывэнс падчас сваей апошняй візыты ў Эўропе ў сакавіку сёлета ў гутарках з палітыкамі паняволеных бальшавізмам народаў меў выказаць пагляд, што ў Каардынацыйны Цэнтр Антыбальшавіцкай Барацьбы (КЦАБ) павінны ўваходзіць як незалежніцкія палітычныя арганізацыі нерасейскіх народаў, званыя Расейцамі, а за імі й Амэрыканскім Камітэтам «сэпаратыстычнымі» або «самастыйніцкімі», гэтак і прадстаўнікі фэдэралістычных плыняў і арганізацыяў гэтых народаў, гэта значыць людзі, мэтай якіх ня ёсьць дзяржаўная незалежнасьць іхных народаў і аддзяленьне ад Расеі, але фэдэрацыя з апошняй. Ці такі пагляд адмірала Стывэнса ёсьць вынікам поўнага неразуменьня ўзапраўднага палажэньня на падсавецкім Усходзе, прышчэпленым хвальшывымі інфармацыямі блізкіх да яго Расейцаў і амэрыканскіх русафілаў, ці зьяўляецца сьвядомым самаабманам, гаварыць пакуль што цяжка. Затое хвальшывы пагляд запраўднага расейскага дэмакрата Г. А. Алексінскага, высказаны ў перадрукаваным у папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» артыкуле «Пра Каардынацыйны Цэнтр», у якім ён абазначае ўсе нерасейскія групы, што ўвайшлі ў КЦАБ, як групы фэдэралістычныя, і наагул сур'ёзна прыймае факт і магчымасьць існаваньня такіх групаў, зьяўляецца чыстым хіба недаразуменьнем. Сьвядомага самаабману сп. Алексінскаму мы прыпісваць ня можам, паколькі гэты шляхотны Расеяц навет і ня думае бараніць расейскіх адзінанедзялімскіх пасяганьняў, ня толькі не паддаецца ўплывам носьбітаў такіх пасяганьняў, але вызнае іх за шкодныя й для самых Расейцаў і зь імі наважана змагаецца.

Вось-жа хвальшывым у сваіх асновах і не адказваючым запраўднасьці ёсьць пагляд, што сярод нерасейскіх народаў СССР, народаў разьвітых і дасьпелых культурна й палітычна, што мелі ў мінулым свае незалежныя дзяржавы й за аднаўленьне якіх вядуць сяньня змаганьне, ёсьць або маглі-б быць у бліжэйшай будучыні палітычныя канцэпцыі фэдэрацыі з Расеяй. Адразу дзеля ўнікненьня непаразуменьняў мусім заціміць, што маем на думцы фэдэралізм, як ідэалёгію й абапёртую на гэтай ідэялёгіі палітычную канцэпцыю. Справа ў тым, што некаторыя мяшаюць паняцьці і фэдэралізмам называюць чыста каньюнктуральныя апартуністычныя палітычныя спэкуляцыі безадказных адзінак, якія з запраўднымі імкненьнямі сваіх народаў ня маюць нічога супольнага. Аб гэткім «фэдэралізьме» ўзятым у двукосьсе, будзе мова пазьней.

Гэта ўсё не абазначае, што няма й ня можа быц сярод гэтых нерасейскіх народаў палітычных імкненьняў да фэдэрацыі між сабой або з вольнымі народамі Захаду. Такія канцэпцыі існуюць і ў будучыні яны могуць поўнасьцю фармаваць іхны палітычны сьветагляд. Але ідэі фэдэрацыі з Расеяй сяньня няма і ў бліжэйшай будучыні быць ня можа.

Праўда, яшчэ да першай сусьветнай вайны бадай што сярод усіх нерасейскіх народаў, побач зь незалежніцкімі палітычнымі плынямі, існавалі таксама, часамі навет вельмі сільныя, і канцэпцыі фэдэралізму з Расеяй. Існавалі яны й сярод некаторых беларускіх угрупаваньняў. Але гэта быў толькі адзін зь пераходных этапаў, этап фэдэралістычны, у гістарычным працэсе нацыянальнага адраджэньня гэтых народаў, які выплываў тады з рэальных магчымасьцяў паасобных народаў, узроўні іхнай нацыянальнай сьпеласьці й палітычнай сілы. Фэдэралістычныя колы нерасейскіх народаў уважалі тады, што ўсе гэтыя якасьці яшчэ недастаткова сярод іх разьвітыя, каб была рэальная магчымасьць на дадзеным гістарычным этапе поўнага аддзяленьня ад Расеі.

Фэдэралістычныя плыні існавалі яшчэ сярод нерасейскіх народаў у пэрыяд іхнага палітычнага й нацыянальнага самавызначэньня ў 1917—1918 г. г., але ўжо тады вялікай вагі ня мелі. Незалежніцкія канцэпцыі перамаглі тады ўсюды. І таму ніводзін нерасейскі народ ня выказаў тады жаданьня фэдэральнай сувязі з Расеяй, але кажны зь іх, навет народы Сібіру, што прадстаўлялі сабой мешаніну розных народаў, у тым ліку й Расейцаў, абвесьцілі свае незалежныя дзяржавы і парвалі ўсякую дзяржаўную сувязь з Расеяй. Ніводзін нерасейскі народ, які сяньня дамагаецца сваей незалежнай дзяржавы, не абвесьціў тады фэдэрацыі з Расеяй. Такім чынам, 1917 і 1918 г. г. былі тым пераломным і зваротным мамэнтам, калі канцэпцыі фэдэрацыі з Расеяй канчальна шчэзьлі й больш ніколі не ажывалі, як пэўны ідэялягічны й палітычны кірунак.

Возьмем хоць-бы, як прыклад, толькі Беларусаў. Ад 25 сакавіка 1918 году, г. зн. ад мамэнту абвешчаньня незалежнасьці Беларусі й законнага парваньня ўсякіх дзяржаўных сувязяў з Расеяй аж да апошніх дзён сярод беларускага на-

(Заканчэньне на 3-яй балоне)

# Палітычныя Навіны

**Камуністычныя паўстанцы ў Ляёсе ў вадвароце.** Камуністычныя аддзелы Го-Чы-Міна, якія былі ўжо прыблізіліся на 15 клм. да сталіцы каралеўства Ляёс Люянг Прабанг і 35 клм. да граніцы Сыяму, ад некалькіх дзён пачалі адваротны марш на поўнач і адыйшлі ад гораду Люянг Прабанг ужо на 60 клм. Таксама адыходзяць камуністыя й ад гораду Паксан, які знаходзіцца на граніцы з Сыямам. Францускае галоўнакамандаваньне ў Індакітаі тлумачыць адступленьне камуністых цяжкасьцямі пастачаньня, якія знаходзяцца 500 клм. ад сваіх базаў, і пэрыядам уліўных дажджоў у Індакітаі. Некаторыя амэрыканскія дзейнікі ўважаюць, што камуністыя ў гэтай краіне звычайна жывяцца рэквізыцыямі ў насельніцтва, таму справа пастачаньня ня можа быць прычынай адступленьня. Таксама яны прывыкшыя ваяваць і ў пэрыяд дажджоў. За галоўную прычыну ўстрыманьня афэнзывы гэтыя колы ўважаюць тое, што Масква ня хоча, каб падзеі ў Індакітаі, якія выклікалі вялікае абурэньне ў цэлым сьвеце, пакуль што дэмаскавалі запраўдныя мэты ейнай мірнай афэнзывы.

**Партыя Дэ Голя адходзіць ад палітычнага жыцьця.** 6 травеня генэрал Дэ Голь асьветчыў, што ягоная палітычная арганізацыя «Задзіночаньне Французкага Народу» (РПФ), якая панесла вялікія страты ў вапошніх камунальных выбарах у Францыі, выходзіць з нармальнага палітычнага жыцьця краіны. Дэпутаты абедзьвюх палатаў парляманту, а таксама дэпутаты самаўрадаў, будуць цяпер карыстацца поўнай свабодай дзейнасьці паводля собскіх паглядаў. ня будуць аднак мець права выступаць ад імя РПФ. Сябры дэголеўскай партыі будуць магчы ў будучыні кандыдаваць у парлямант, але не ад «Задзіночаньня Французкага Народу», якое ня будзе болей браць удзелу ў парлямантарным жыцьці, як і ў наступных выбарах. 85 дэгалістых, якія зьяўляюцца сябрамі цяперашняга парляманту, могуць цяпер прылучыцца да іншых парлямантарных фракцыяў.

**Новае ў перагаворах аб перамір'і ў Карэі.** Шэф камуністычнай дэлегацыі дзеля перагавораў аб перамір'і ў Карэі генэрал Нам Іль на паседжаньні ў Панмунджоне 5 травеня выразіў сваю згоду на выбар Пакістану. як нэўтральнае краіны, якая мае заапякавацца ваеннапалоннымі. што адмовяцца ад рэпатрыяцыі, аднак у гэты дзень ня даў яшчэ згоды на тое. каб гэтыя ваеннапалонныя асталіся пад апекай Пакістану на тэрыторыі Карэі, чаго дамагаліся збройныя сілы Задзіночаных Нацыяў. Аднак 7 травеня камуністыя неспадзявана згадзіліся на астаўленьне гэтых ваеннапалонных на тэрыторыі Карэі, пад умовай аднак, што альянты прыймуць запраектаваныя раней камуністымі 8 пунктаў у справе вымены ваеннапалонных. Найважнейшым з гэтых 8 пунктаў ёсьць дамаганьне камуністых стварэньня нэўтральнай рэпатрыяцыйнай камісіі з наступных дзяржаваў: Польшча, Чэхаславаччына, Швайцарыя, Швэцыя і Індыя. У сувязі з гэтым альянцкія дэлегаты зажадалі перарыву канфэрэнцыі да 9 травеня дзеля абмеркаваньня новага камуністычнага праекту.

**Генэрал Пэрон супраць ЗША.** Заварушэньні ў Аргентыне, аб якіх мы паведамлялі раней, прынялі войстрыя разьмеры ў дзень 1 травеня, калі ў аргентынскай сталіцы Буэнос Айрэс праціўнікі Пэрона кінулі некалькі бомбаў. Забітых і раненых аднак ня было. Паліцыя правяла масавыя арышты, у выніку якіх было арыштавана звыш 200 чалавек. Прэзыдэнт Аргентыны ген. Пэрон у прамове на адкрыцьці 86 сэсыі парляманту 1 травеня выступіў з радам абвінавачаньняў супраць ЗША і асабліва супраць амэрыканскіх прэсавых агенцтваў «Асошыейтыд Прэс», «Юнайтыд Прэс» і «Інтэрнэйшэнэл Ньюс Сэрвіс», абвінавачваючы іх у спрычыненьні гэтых заварушэньняў. Аргентынская прэса зьвярнулася пад адрасам Амэрыкі із словамі: «Нашым ворагам зьяўляюцца ЗША . . .»

**Новыя заварушэньні ў Тунісе.** Пасьля некалькімесячнага супакою ў Тунісе выбухнулі новыя заварушэньні. Напярэдадні камунальных выбараў, што адбыліся 3 травеня, у сталіцы краіны былі дакананыя сябрамі туніскай нацыянальнай партыі «Нэо Дэстур» чатыры атэнтаты, у выніку якіх быў забіты другі бургомістр Тунісу Шэдлі Касталлі і адзін францускі паліцыянт ранены. У вадказ на гэтыя акты туніскіх рэвалюцыянэраў францускі генэральны рэзыдэнт выдаў загад арыштаваць звыш 20 выдатных туніскіх палітычных дзеячоў.

**5,8 мільярдаў даляраў замежнай помачы ЗША.** Прэзыдэнт Айзэнгаўэр ў спэцыяльным пасланьні зажадаў 5 травеня ад амэрыканскага кангрэсу зацьвердзіць праграму замежнай помачы ў вышыні 5 828 мільярдаў даляраў (23,5 мільярдаў нямецкіх марак), з гэтага 5,25 мільярдаў ваеннай помачы і 0,55 мільярдаў гаспадарскай помачы. Прэзыдэнт падчыркнуў, што для справы абароны Далёкага Ўсходу павінна быць зроблена болей, чымся дагэтуль. Гэтая праграма ёсьць фактычна скарачэньнем замежнай помачы ЗША, бо папярэдні прэзыдэнт, перад сваім уступленьнем, зажадаў быў для замежнай помачы на бюджэтны год 1953/54 роўна 7.861 мільярдаў даляраў.

**Англа-эгіпскія перагаворы ў справе Суэзу адложаныя.** Англа-эгіпскія перагаворы ў справе вываду брытанскіх войскаў з зоны Суэскага каналу, якія распачаліся ў Каіры 27 красавіка, былі 6 травеня адложаныя на неабмежаваны час. Як цьвердзяць паінфармаваныя колы. гэтыя перагаворы станулі на мёртвым пункце з прычыны розьніцы паглядаў у справе эвакуацыі брытанскіх войскаў із зоны Суэскага каналу і далейшага ўтрыманьня гэтае ваеннае базы. У вабліччы радыкальных дамаганьняў Эгіпту брытанская дэлегацыя пастанавіла паразумецца із сваім урадам.

**ЗША не дазволяць на інвазію Сыяму.** Старшыня камісіі збройных сілаў палаты дэпутаваных ЗША Шорт асьветчыў 6 травеня, што ЗША павінны перасьцерагчы камуністых, што яны ня згодзяцца на інвазію Сыяму. Кангрэсмэн Шорт войстра заатакаваў кіраўніцтва амэрыканскай палітыкі за «брак волі да змаганьня й перамогі». На ягоную думку ЗША павінны пакончыць зь перагаворамі ў Карэі, калі камуністыя ня згодзяцца з гары на задзіночаньне гэтага краю.

**13 мільёнам Немцаў загражае голад.** Міністар для агульнанямецкіх справаў Кайзэр асьветчыў 6 травеня ў парляманьце ў Бонн, што заходнянямецкі ўрад згаджаецца выслаць адпаведную колькасьць прадуктаў для Ўсходняй Нямеччыны, каб ратаваць насельніцтва, загрожанае голадам. Згодна рапарту, прыгатаванага экспэртамі для парляманту, голад загражае 13 мільёнам спасярод усіх 18 мільёнаў насельніцтва Ўсходняй Нямеччыны. Аднак няма надзеі, каб усходнянямецкія ўлады дазволілі выслаць гэтыя прадукты, так як дагэтуль усходня-нямецкія ўлады імкнуліся імпартаваць толькі сыравіну і прадукты прамысловыя. Галоўнай прычынай голаду зьяўляецца хаотычная й рабунковая савецкая гаспадарка.

**Вядучыя камуністыя Грузіі ў няласцы.** На адным пленарным паседжаньні камсамолу Грузіі быў звольнены із свайго становішча першы сакратар камсамолу Кандэлякі. Адначасна былі звольненыя з цэнтральнага камітэту камсамолу ранейшы сакратар камсамолу Мгэлядзе і сакратар тыфліскай арганізацыі камсамолу Бальвадзэ.

**Міністар Даллес і Стассэн на Сярэднім і Блізкім Усходзе.** Міністар замежных справаў ЗША Даллес і дырэктар узаемнай бясьпечнасьці Стассэн выляцелі 9 травеня з Вашынгтону на трохтыднёвыя адведзіны 12 дзяржаваў Сярэдняга й Блізкага Ўсходу.

**Карыкатура амнэстыі ў Чэхаславаччыне.** У Чэхаславаччыне абвешчана амнэстыя, якая ў сваіх разьмерах далёка навет не дараўноўвае нядаўнай амнэстыі ў СССР. Паводля гэтай амнэстыі будуць звольненыя не-палітычныя праступнікі непаўналетнія, якія засуджаныя да двух год зьняволеньня, узрослыя, засуджаныя на менш, чымся на год, і цяжарныя кабеты, засуджаныя на меней, чымся два гады. Дажыцьцёвае ўвязьненьне зрэдукаванае да 20 гадоў, а хворым мужчынам звыш 60 год і жанчынам звыш 55 год будзе зьменшаны тэрмін кары.

**У Ангельшчыне дамагаюцца канфэрэнцыі пяцёх.** 80 лейбурыстаўскіх дэпутатаў ніжняй палаты зажадалі 7 травеня ад ураду старацца скліканьня канфэрэнцыі пяцёх вялікадзяржаваў ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, камуністычнага Кітаю й СССР у справе заключэньня прапанаванага Саветамі пакту міру.

**Паўстрыманьне будовы атамных самалётаў у ЗША.** Амэрыканскае міністэрства абароны пастанавіла завесіць выкананьне пляну будовы лётнішчаў і самалётаў, парушаных атамнай энэргіяй. Адныя ўважаюць, што гэтая пастанова была выклікана з глядзішча на ашчаднасьць, іншыя цьвердзяць, што прычынаю гэтага адкладу ёсьць жаданьне перадаваньня выкананьняў гэтых плянаў прыватным фірмам.

# Ілюзіі разьвейваюцца

(Заканчэньне з 1-ай балоны)

афэнзывы Амэрыкі. Бо вось ужо 25 красавіка маскоўская «Правда» і «Известия» зьмясьцілі артыкул, які быў непасрэдным адказам на гэтую прамову амэрыканскага прэзыдэнта.

Пасьля слоўнага дамаганьня «сур'ёзнага й цьвярозага абгаварэньня ўсіх заіснаваўшых разыходжаньняў у паглядах у непасрэдных перагаворах або ў рамах Задзіночаных Нацыяў», гэты артыкул, які бясспрэчна, як і ўсякае прэсавае асьветчаньне ў Саветах, выражае афіцыяльнае становішча Крэмля, поўнасьцю адкідае высунутыя Айзэнгаўэрам перадумовы трывалага міру: заканчэньне вайны ў Карэі й Індакітаі, мірны дагавор з Аўстрыяй, задзіночаньне Нямеччыны й свабоднае выяўленьне волі народаў сатэлітных дзяржаваў. У справе Нямеччыны прапанова Айзэнгаўэра, на думку савецкае прэсы, не зьмяшчае ў сабе канструкцыйнай асновы й разьмінаецца з пастановамі потсдамскай канфэрэнцыі. З выразным гэстам у бок Францыі артыкул высоўвае небясьпеку нямецкай агрэсыўнай палітыкі. У справе Далёкага Ўсходу артыкул дамагецца, каб Захад вызнаў законнасьць камуністычнага ўраду Кітаю і камуністычных рухаў ува ўсіх іншых азіяцкіх дзяржавах. Што тычыцца мірнага дагавору з Аўстрыяй, артыкул бачыць добрыя шансы ў «васновах, дасягнутых у папярэдніх перагаворах». Прапановы Айзэнгаўэра аб раззбраеньні разглядаюцца ў вартыкуле, як «за агульныя» й ня прыдатныя. Ня менш вымоўным зьяўляецца пункт артыкулу, прысьвечаны ўсходня-эўрапэйскім народам. З традыцыйным ужо цынізмам Масква пярэчыць, што рэжымы сатэлітных краінаў былі накінутыя сілай, заяўляючы, што народы Ўсходняй Эўропы дабравольна выбралі сабе «дэмакратычна-народныя формы ўрадаў».

Адзінымі пазытыўнымі мамэнтамі, як аднагодна прызнала заходняя прэса, быў лагодны тон артыкулу й непрактыкаваны дагэтуль у Саветах факт, што прамова Айзэнгаўэра была поўнасьцю перадрукаваная савецкай прэсай. Хаця гэты апошні факт сам па сабе зьяўляецца вельмі паказальным, ня сьветчыць аднак аб якой-небудзь істотнай зьмене курсу савецкай палітыкі. Такім чынам прамова Айзэнгаўэра выдатна спрычынілася да хутчэйшага высьненьня сытуацыі. Саветы, будучы прыціснутымі да муру, былі змушаныя паказаць сваё ўзапраўднае аблічча. Артыкул «Правды» сьветчыць, што зьмена замежнай палітыкі Савецкага Саюзу датычыць толькі формы, але ня зьместу. Зьмест-жа астаецца той самы, што й перад гэтым, які быў абавязваючым пры Сталіну.

### МАСКОЎСКІ ПРАЕКТ ПАКТУ ПЯЦЁХ

Што савецкая замежная палітыка асталася старая й пачынае навет прыймаць старыя формы халоднае вайны, найлепей сьветчыць апошняя прапанова міністра замежных справаў СССР Молатава аб заключэньні мірнага пакту пяцёх вялікадзяржаваў.

Яшчэ ў верасьні 1949 году тагачасны савецкі міністар замежных справаў Вышынскі запрапанаваў у Задзіночаных Нацыях заключэньне мірнага пакту між ЗША, Вялікабрытаніяй, Францыяй, камуністычным Кітаем і Савецкім Саюзам. Цяпер-жа, паймення 28 красавіка сёлета, Молатаў гэты праект паўтарыў. На працягу гэтых трох з палавінаю год, якія дзеляць абедзьве савецкія прапановы, былі на Захадзе ўсестаронна прадыскутаваныя й разважаныя ўсе аспэкты савецкае прапановы. Былі яны разважаныя і ў Задзіночаных Нацыях, якія ў тым-жа 1949 годзе іх адкінулі і гэтую нэгатыўную пастанову ў наступным годзе паўтарылі. Задзіночаныя Нацыі тады камэнтавалі сваю пастанову тым, што такі пакт абсалютна непатрэбны й малыя дзяржавы будуць мець падставы баяцца, што іхныя інтарэсы будуць тады ігнараваныя, а для захаваньня міру дастатковымі былі-б гарантыі, калі-б Саветы ўшанавалі Карту Задзіночаных Нацыяў, разьвязалі свае пятыя калёны й камуністычныя арганізацыі ў вольным сьвеце ды рэспэктавалі сувэрэннасьць усіх дзяржаваў.

Што меў на мэце дасягнуць Савецкі Саюз сяньняшнім паўтарэньнем гэтае прапановы? Адказ можа быць адзін: усё, толькі не запраўдны й трывалы мір. Саветы, выцягваючы з свайго архіву мірнай афэнзывы гэты праект, добра ведалі, што для заходніх дзяржаваў ёсьць ён не да прыняцьця. Справа ў тым, што Амэрыка ня можа з прадстаўнікамі камуністычнага Кітаю падпісваць ніякага пакту, бо ня вызнае й ня думае вызнаваць ягонага ўраду, які, у дадатак, знаходзіцца ў стане вайны з Захадам у Карэі. Тут Молатаў мог ставіць перад сабой тры мэты адначасна: 1. глыбей увагнаць клін між Амэрыкай і Вялікабрытаніяй, якая вызнае ўрад чырвонага Кітаю і дзеля гэтага ня будзе бачыць для сябе ніякіх фармальных перашкодаў у падпісаньні такога пакту; 2. мець яшчэ адзін козыр у сваей прапагандовай ігры, накіраванай на псыхалягічнае раззбраеньне Захаду; 3. вырваць з рук Амэрыкі ініцыятыву ў халоднай вайне, перанятую прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам у ягонай прамове.

Апінія Захаду, перадусім Задзіночаных Штатаў і Вялікабрытаніі, прыняла прапанову Молатава з належным сцэптыцызмам. «Нью Ёрк Таймс» з гэтае нагоды пісаў: «Гэты праект зьяўляецца ня толькі крокам назад, але таксама й паказвае, што Саветы не пакінулі сваіх спробаў загнаць заходні сьвет у застаўленую імі пастку; такое захоўваньне Саветаў робіць іхную афэнзыву яшчэ больш сумліўнай, чымся калі-небудзь перад гэтым». Лёндансі «Дэйлі Экспрэс» зарэагаваў на прапанову Молатава кароткімі словамі: «Не, дзякую, містар Молатаў!» А кансэрватыўны брытанскі «Дэйлі Тэлеграф» скамэнтаваў новы крок Крэмля такімі словамі: «Нам гавораць, што мы павінны выйсьці Расейцам на спатканьне на палавіну дарогі — куды на палавіну дарогі? І яшчэ раз заяўляе Саветам, што Захад можа спаткаць іх толькі на тэй палавіне дарогі, якая была вызначаная ў прамове Айзэнгаўэра.

Той факт, што нявыразная й небясьпечная дагэтуль сытуацыя канчальна выясьнілася й зманлівыя ілюзіі Захаду аб перастаўленьні савецкай палітыкі на мірныя рэйкі канчальна разьвеіліся, зьяўляецца бясспрэчна фактам карысным. Ён прынамсі паўстрымае працэс псыхалагічнага раззбраеньня Захаду, выкліка765 новай савецкай афэнзывай міру, працэс, які ў Вялікабрытаніі, а перадусім у Францыі, пачаў быў прыймаць грозныя разьмеры.

**Язэп Каранеўскі**

# Яшчэ раз аб каардынацыі й пагадненьні

**(АДКАЗ НА «ЛЁГІКУ» К. ЗАБУЖАНІНА ЗЬ «НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ»)**

Пасьля апублікаваньня артыкулу «Як дасягнуць каардынацыю беларускае эміграцыі» ў № 7-8 «Бацькаўшчыны» мне, як аўтару гэнага артыкулу, давялося пачуць вельмі шмат як дакораў, гэтак і прызнаньняў у розных прыватных да мяне лістох ды паасобных гутарках.

Усім тым, хто мне дакараў ці пагаджаўся з паасобнымі думкамі, я шчыра раіў выказваць гэта праз прэсу дзеля публічнага ведама, бо толькі ў шырокай, адкрытай, публічнай дыскусіі і свабоднай вымене паглядаў можна будзе знайсьці неабходнае нам зерне праўды. Вартасьць і карысьць дыскусіі на грамадзка-палітычныя тэмы якраз і палягае ў гэтым.

На вялікі аднак жаль, голасу гэтых людзёў яшчэ чамусь ня чутно. Затое ў гэтым часе зьявіўся артыкул Кузьмы Забужаніна ў воргане групы Астроўскага «Незалежная Беларусь» за сакавік-красавік (нумар гэтае газэты трапіў да мяне выпадкова толькі гэтымі днямі, таму я й ня мог раней зарэагаваць на яго) і мімаходам у № 16 (147) «Бацькаўшчыны» Алесь Крыга выказаў, што мы абодвы (А. Сьвіслацкі і К. Забужанін) «выходзім з хвальшывага гледзішча», бо: «...і адзін і другі хацеў-бы гэтае пагадненьне правесьці чыста мэханічным спосабам. Каб дасягнуць запраўднага пагадненьня ці каардынацыі, павінна быць найперш створаная дзеля гэтага ідэялягічная база».

Ня буду гаварыць за «другога», але той «адзін», г. зн. А. Сьвіслацкі, перадусім і намагаўся разгледзіць гэтую базу ды заклікаў выказаць свае думкі ў гэтай справе іншых, а ўжо чыстую «мэханіку» канчатковае каардынацыі, ці навет мо' й зьліцьця пакідаў на пазьнейшы час, прапануючы адначасна пэўныя практычныя крокі ўжо цяпер, каб прысьпешыць набліжэньне гэтае каардынацыі.

Алесь Крыга зусім правільна сьцьвярджае, што «падзел быў запачаткаваны вясной 1946 году дывэрсіяй япіскапаў», але гэная першапрычына, мне здаецца, ужо даўно адпала, а за гэты час нарасло вельмі шмат іншых напластаваньняў, якія праз прызму часта перабольшаных асабістых амбіцыяў часамі зусім хвальшыва сьведама ці падсьведама ўважаюцца якраз за тую «наймацнейшую» ці «найдэмакратычнейшую» базу, зь якой «зыйсьці аніяк нельга». Цяпер якраз прынцыповае значэньне мае дзеля ўсяе сьведамае беларускае эміграцыі пытаньне нашага дачыненьня да двух гістарычных фактаў у жыцьці беларускага народу, а паймення: існаваньня й дзейнасьці ворганаў Беларускай Народнай Рэспублікі, што паўсталі калісь у выніку вольнае волі народу, і г. зв. «адзінага легітымнага прадстаўніцтва Беларусі, як дзяржаўнага арганізму» — (паводля тэрміналёгіі К. Забужаніна) — Беларускае Цэнтральнае Рады.

Пры разглядзе гэтае справы кажны з нас павінен перадусім адкінуць свае суб'ектўныя пачуцьці ў дачыненьні да людзей, што дзеілі ці дзеяць ува ўсіх успомненых ворганах, а разглядаць іх як такія, як фактары з пункту гледзішча іхнае карыснасьці і гістарычнае вартасьці ў вызвольным ходаньні нашага народу.

Дзеля гэтага нельга абыйсьці моўчкі выступленьня майго паважанага апанэнта К. Забужаніна, які, пасьля «гарачага вітаньня» майго выступленьня, ня менш горача адразу-ж задэкляраваў, што мая «пазытыўная разьвязка сучаснага стану рэчы нерэальна, — бо грашыць **адсутнасьцяй лёгікі, шчырасьці і дэмакратызму» (!)** (падкрэсьленьні нашыя — А. С.).

Якімі-ж «шчыра- лёгічна-дэмакратычнымі» довадамі падмацоўвае свой прысуд К. Забужанін? «Довадаў» гэтых колькі; вось яны:

I. Згадзіўшыся із мною, што «носьбітам дзяржаўнае незалежнае, гістарычнапраўнае традыцыі ёсьць і застанецца Рада Беларускай Народнай Рэспублікі», К. Забужанін уносіць «невялічкую» папраўку, паймення: «Калі А. Сьвіслацкі ўважае І-шы Ўсебеларускі Кангрэс за ўсенароднае прадстаўніцтва, дык **лёгічна** павінен прызнаць такім-жа і II-гі Ўсебеларускі Кангрэс, бо-ж абодвы яны былі скліканы адным і тым-жа парадкам» (падкрэсьленьне нашае — А. С.).

То-ж бо то! **Лёгічна** разважаючы, зрабіць гэтага ніяк нельга, бо І-шы Кангрэс быў Першай Дзяржаўнай Дэмакратычнай Канстытуантай і, як давёў у сваёй гістарычнай брашуры Н. Недасек п. н. «1917—1947» (гл. бал. 18), **«...Мандат кажнага дэлегата Кангрэсу паходзіў з вольных дэмакратычных выбараў,** а не з «кааптаваньня», «пакліканьня», «вызначаньня» ці падобных сурагатаў дэмакратыі, напару вымушаных абставінамі, а напару й з прынцыпаў агульнаабавязваючых. У гэтым палягае й вялізарная, можна сказаць, проста прадонная розьніца між І-ым Кангрэсам і г. зв. «Другім Усебеларускім Кангрэсам», скліканым за апошняй нямецка-гітлераўскай акупацыі ў тым-жа Менску 27 чэрвеня 1944 г. Гэтая розьніца такая самая, як, прыкладам, розьніца між дэмакратычна абраным клясычным ангельскім парляментам ці кангрэсам ЗША з аднаго боку і пакліканым «фюрэрам» райхстагам «Трэйцяга Райху», сфармаваным «дучэ» італьянскім фашыстаўскім парлямантам, ці навет «дэмакратычна» майстраванымі «вярхоўнымі саветамі» ў СССР — наагул усімі формамі «народнага прадстаўніцтва». Да гэтага дадаваць нічога больш ня трэба, хіба што толькі прыпомніць К. Забужаніну, як «выбіраліся» дэлегаты на г. зв. II-гі Кангрэс: прыкладам старшынь Менскага павету за тры дні да «Кангрэсу» выклікаў да сябе нямецкі гэбітскамісар і загадаў на 27 чэрвеня накіраваць у Гарадзкі тэатр на «ваш беларускі кангрэс», як ён выразіўся, аднаго настаўніка, аднаго селяніна, аднаго работніка і зьявіцца старшыні павету ды школьнаму інспэктару. Іншая справа, што на той «кангрэс» трапіла шмат сьведамых і дзейных беларускіх нацыянальных працаўнікоў, але былі яны там ня з **вольных выбараў,** а **па загаду** ці **вызначэньню і маглі абмяркоўваць толькі тое, што дазвалялі акупацыйныя ўлады,** таму яго і не разагналі, з чаго цешыцца К. Забужанін.

2. Рады Беларускае Народнае Рэспублікі няма й быць ня можа, а таксама і Ўраду БНР, бо ён «на чале з прэм'ер-міністрам Цьвікевічам 20. 10. 1925 г. на Бэрлінскай канфэрэнцыі самазьліквідаваўся, зрокся сваіх мандатаў на карысьць БССР».

Трэба толькі дзівіцца: зь якіх гэта «шчырых, лёгічных і дэмакратычных» меркаваньняў выцягваецца ведамая песьня аб «самаліквідацыі ворганаў БНР»? Яе сквапна прапагавалі ўвесь час толькі ворагі беларускага вызвольнага руху. Не ад сяньня ведама, што створаная бальшавікамі 1. 1 .1919 г. БССР як супроцьважнік БНР не магла задаволіць іхных «тварцоў» датуль, пакуль будуць існаваць на выгнаньні праўныя Рада і Ўрад БНР ,таму яны ўвесь час і намагаліся рознымі спосабамі іхнае ліквідацыі. З гэтай мэтай і быў накіраваны ў Бэрлін З. Жылуновіч, што меў асабістыя сувязі зь некаторымі сябрамі Ўраду БНР і патрапіў, дзякуючы гэтым сувязям, пераканаць частку зь іх аб неабходнасьці «будаваць свой беларускі дом» на месцы, г. зн. у БССР.

На правакацыю паддаліся толькі Цьвікевіч, Заяц і Пракулевіч (пазьней яны, гэтак як і Жылуновіч, налажылі галавой, як і шмат іншых). Ня верыцца, што К. Забужанін ня ведаў аб тым, што гэтая тройка зрабіла падлог і, ня будучы ўжо міністрамі, падпісала ад імя ўраду БНР заяву аб прызнаньні БССР ды перадала ей свае мандаты. Яны яшчэ перад канфэрэнцыяй, **бо 4. 10. 1925 г.,** злажылі на рукі прэзыдэнта БНР свае дымісіі і гэтыя дымісіі былі **10. 10. 1925 г.** прэзыдэнтам Крэчэўскім прынятыя (гл. «Бюлетэнь Рады БНР» за студзень 1926).

Прэзыдэнт БНР П. Крэчэўскі ў сваей заяве ад 16. 1. 1926 г. цьвердзіць, што: «Усёроўна пры адстаўцы,ці навет без адстаўкі, пратакол аб ліквідацыі Ўраду, а тым барджджэй, перадачы мандатаў без пацьверджаньня старшыні Рады, ніякай вагі мець ня мог і зьяўляецца падлогам і спэкуляцыяй з аднаго боку, і юрыдычным абсурдам, разьлічаным на несьвядомасьць, калі не сказаць, глупоту, як сябе, так і тых, каму гэтыя пастановы й мандаты прыгатаўляліся» (цытаваны «Бюлетэнь»). Факт падлогу Цьвікевіча й іншых бальшавікі раструбілі дзеля нутранага ўжытку ў БССР, як «самаліквідацыю» ворганаў БНР, але ведалі яны тады і ведаюць добра цяпер, што гэныя законныя ворганы сувэрэннасьці й незалежнасьці Беларусі існавалі й існуюць, дзеілі й дзеюць вонках самой БССР, бо весткі аб гэтай дзейнасьці, хоць і скупыя, але ўсё-ж прасякаюць праз усялякія заслоны і на Бацькаўшчыну. Таму яны навет і цяпер не пакідаюць БНР у супакоі, а ад часу да часу плявузгаюць у сваёй «Зьвязьдзе» аб «запраданасьці» агентам буржуазіі.

У дачыненьні-ж да дзейнасьці стваральнікаў нашае дзяржаўнасьці прэзыдэнтаў Пётры Крэчэўскага й Васіля Захаркі палемізаваць з маім апанэнтам ня буду, адсылаючы яго й зацікаўленых да матарыялаў, пададзеных у № 10-11 (141-1942) «Бацькаўшчыны» ад 15. 3. 1953 г.

3. К. Забужанін цьвердзіць, што ў параўнаньні з Радай БНР у сучасным ейным складзе «поўная перавага й рацыя будзе па баку БЦР», бо-ж II-гі Кангрэс **«ратыфікаваў Акт 25-га Сакавіка» (!)** і ўрэшце «... выбраў прэзыдэнта БЦР, якому й даручыў весьці далейшае змаганьне з дапамогаю «Беларускае Цэнтральнае Рады».

У вадказ свайму апанэнту што да г. зв. «ратыфікацыі Акту 25-га Сакавіка» дазволю зацытаваць ізноў-жа Н. Недасека зь ягонай працы п. н. «1918—1948» (бал. 22-23): «Усе спробы «перакрыць» ці «удасканаліць» гэты Вялікі Акт дасюль да

(Заканчэньне на 3-яй балоне)

# Запіскі Самсона Самасуя

(Працяг)

### І. АД РОДНАЙ ХАТЫ

— Ты-ж глядзі, мой сынок! — гаварыла мне маці, калі я пасьля доўгага беспрацоўя атрымаў пасаду ў Шапялёўскім выканкоме.

— Ты ўжо не хлапчук. Час падумаць на сябе ды аб нас старых... Жаніцца-б табе, ды супакойна гадаваць дзетак. І я з радасьцю пачукала-б тваіх дзетак! Глядзі-ж, сынок, хоць цяперака трымайся, каб зноў не ўкарацілі!

На гэтае матчына выступленьне я самаўпэўнена адказаў:

— Я ведаю, маці, як сябе трымаць! Ці я людзей ня бачыў? Ці мне гэта ў першы раз?

Маці сумна памахала галавою:

— Заўсёды, сынок, так кажаш, а як дадуць справу, дык фартэль і выкінеш! Ой, баюся я за цябе! Па бацькавай вадылі пашоў.

Мой бацька, раўнадушна зірнуўшы на матку, пыхкаючы люлькай, у нос прамармытаў:

— Па маёй вадылі? Каб па маёй, дык сядзеў-бы на зямлі. А то сьвет аб'езьдзіў, усе гарады абнюхаў, ды нідзе прыстану не знайшоў. Казаў і кажу: лепш кінуў-бы вандраваць ды ўзяўся-б за зямлю.

Я выйшаў на сярэдзіну хаты, растапырыў ногі, як крынджалы, задраў нос уверх і, прыплюснуўшы правае вока, тэатральна запытаў у бацькі:

— Як-жа? Буду калупацца ў пясочку вашым? Няхай троху пачакае! Якое тут жыцьцё? Бачыўшы цывілізацыю, які разумны чалавек пачне рабіць гэта калупайства ваша? Краты вы, а ня людзі! Які сэнс у вашай кацінай працы?

Не адзін раз бацька слухаў мае разважаньні аб адсутнасьці матар'яльнай базы ў яго вытворчасьці і, трэба сказаць, слухаў іх з вужацкім спакоем, а цяпер раптам закрычаў на мяне высокім голасам:

— Ах каб ты выпруціўся, чортаў сын, вучоная раськірэка! Дык я крот? І матка краціха? Рыемся ў зямлі і сьвету ня бачым?

— Ты — ня крот, а праца твая краціная!

— Калі так, чаго-ж ты, Хадора сьвятая, як дадуць табе перцу, зноў хвост падтуліўшы сюды ляціш ды на бацькавай шыі сядзіш? І працаваць ня хочаш, хочаш дурыкамі жыць! Над бацькавымі мазалямі сьмяешся... Вучыў цябе, ночай не дасыпаў, хацеў, каб сын вучоны быў, а ты цяпер і сьмяешся з бацькі, з маткі...

Бацька не на жарты ўсхадзіўся. Гэта параўнаньне з кратом фарсіравала яго кроў.

— Калі-ж так, — кінуў ён ужо нізкім тонам, — ня дам табе кабылы! Едзь на сваіх, на дваіх! Цягні, як хочаш, свае прычындалы! Досыць зь мяне! Наслухаўся твайго мудрагельства!

Бацька грукнуў дзьвярыма і вышаў на двор. Там ужо стаяла ў поўнай баявой гатоўнасьці запрэжаная кабыла.

Бацька пачаў нэрвова распростваць яе, нешта злосна бубніў сабе пад нос, некалькі разоў абазваў ні ў чым нявіннае стварэньне «шэльмай гарбаносай». Кабыла зусім не хацела разумець бацькавай крыўды і зьдзіўлена пазірала на слаба каардынаваныя рухі свайго гаспадара і яго палітычна нявытрыманую тактыку.

Распрогшы кабылу, бацька ў пуню яе не загнаў. Адыйшоў ад кабылы і сеў на калоду. Кабыла пастаяла хвіліну і падышла да бацькі, нюхаючы паветра.

— Чаго прышла? Чаго стала тут? Ідзі ў пуню! Не паедзем мы з табой, кабылка!

Зірнула на яго зьдзіўлена сваімі добрымі вачмі і ціха пасунулася ў вадчыненую пуню.

Я злосна пазіраў у вакно на бацьку, кабылу і каламашку, у якой мусіў быў ехаць, каб ня гэты нікчэмны крот. З практыкі ведаў, што цяпер ня хутка наладзіш дыплёматычныя зносіны з бацькам.

Матцы я сказаў, вачмі паказваючы на бацьку:

— Вунь сядзіць, надзьмуўся, як сава! Здаецца, каб быў бацька маладзей, пашоў-бы я туды ды адкалатушыў бацьку!

Матка ласкава сказала мне:

— Кінь злавацца! Бацька адходлівы! Пасьля абеду паедзеш, а нанач там будзеш. А цяпер лепш сабраў-бы ўсё сваё да кучы. Я табе памагу.

Я паслухаў маткі і пачаў упакоўваць свой гардэроб. За 15 гадоў бадзяньня па сьвеце шмат чаго сабралася ў мяне.

Дзьве хутры, адна лісіная, другая ваўчыная, дзьве бэкэшы, шынэлька вельмі пралетарскага крою, прастрэленая ў некалькіх мясцох; пахаджэньне гэтых дзірак я добра ведаў і ўсім гаварыў, што кулі белагвардзейскай сволачы прастрэлілі яе на Дзінікіным фроньце. Было яшчэ паліто даімпэрыялістычнай эпохі, зусім куртатае і цеснае для маёй асобы. Іншы раз я апранаўся ў яго і, як заўважыла мне тэлефаністка адна, паліто сьмешна выпучвала мае заднія формы. Шмат было ў мяне і нагавіц: галіфэ розных колераў і фасонаў, райтузы, клёшы, спрынджыкі (апошні крык амэрыканскай моды), шаравары і нават беларускія споднікі зь «сеслам» для эфэктных выступленьняў у спэктаклях.

Увесь мой гардэроб і апісаць нельга. Бацька называў усе мае рэчы «прычындаламі» і часта гаварыў маёй матцы:

— Тысячы паўтары можна было-б скалаціць за гэта прычындальле! Але што ты зробіш сыну, калі ён носіцца з цацкамі ды хварэе на пана? А можна было-б паправіць гаспадарку!

Уся вопратка ляжала ў кучы і была перасыпана нафталінам. Матка, парадкуючы яе, увесь час чмыхала, круціла носам і бубніла:

— Каб табе праваліцца, нячыстая сіла! Ня звыкнуся з гэтым смуродам! І выдумаюць-жа людзі!

Я сачыў за кажным рухам маткі і даваў інструкцыі.

Матка адгаварвала:

— На што ты забіраеш усе рэчы?

— Я там асяду. Апошні раз цягнуся з дому. Можа ажанюся там, маці!

— Няхай-жа Бог пасылае, сынок!

Матка зірнула на мяне, статнага, бялявага зь вельмі пухнатымі вусамі і дужа кірпатым тварам мужчыну, і мімаволі з вачэй яе сыпнулі сьлёзы.

«Прычындалы» былі ўпакаваны. Я зірнуў у вакно. Бацька ўсё сядзеў на калодзе.

— Пакладу яшчэ кніжкі і розную дробязь, тады ўсё будзе ў парадку! — сказаў я сам сабе і пачаў даставаць з паліцы кніжкі.

Чатыры кніжкі я лічыў настольнымі і ніколі зь імі не разлучаўся:

1) падручнік, як гаварыць мала і важка,
2) культура трох камераў цела,
3) як разьмяркоўваць свае функцыі і
4) падручнік па агульнаму кіраваньню.

# Памяшаньне паняцьцяў...

(Заканчэньне з 1-ай балоны)

роду ня было ніводнай палітычнай партыі, ніводнай палітычнай арганізацыі, ніводнай палітычнай плыні і навет ніводнага выдатнейшага палітычнага дзеяча, у васнове ідэялёгіі якіх ляжала-б канцэпцыя фэдэрацыі з Расеяй. Ня было й няма такой канцэпцыі й сярод беларускай эміграцыі. І трэба было не малых натугаў і грошаў адзінанедзялімскага расейскага СБОНР-у, каб зь безадказных, дагэтуль зусім няведамых у беларускім руху й у бальшыні нацыянальна несьвядомых людзей змантаваць няўдалую пародыю беларускіх «фэдэралістых» у форме г. зв. «Беларускага Дэмакратычнага Аб'еднаньня» й рабіць націск на Амэрыканскі Камітэт прыняць яго ў КЦАБ і гэтым самым мець для сябе адзін лішні голас. Тое, што сярод Беларусаў ідэйных фэдэралістых ужо даўно не знайсьці ізь сьвечкай, гэта аб'ектыўны факт і ён у дадзеным выпадку найбольш паказальны, а для ініцыятараў, інсьпіратараў і аўтараў КЦАБ-у павінен быць і павучальным!

І гэта поўнасьцю зразумела. Не маглі-ж і ня могуць нерасейскія народы імкнуцца да фэдэрацыі з Расейцамі, ад якіх на працягу вякоў цярпелі й церпяць сяньня нацыянальнае й палітычнае прыгнечаньне, якімі зьяўляліся й зьяўляюцца паняволенымі і ад няволі гэтай імкнуцца вызваліцца. Ня могуць яны імкнуцца да фэдэрацыі з тымі Расейцамі, якія імкнуцца і ў будучыні захаваць для іх тую-ж самую турму народаў, хоць і назваўшы яе навонкі фэдэрацыйнай. Навет і сяньня, у пэрыяд асаблівага спэкуляваньня фэдэрацыйнымі канцэпцыямі, няма ніводнай такой расейскай палітычнай арганізацыі на эміграцыі ці больш уплывовай палітычнай плыні, якая-б шчыра й беззасьцярожна вызнавала нацыянальныя правы нерасейскіх народаў і ўмела ўшанаваць іхныя прыродныя нацыянальныя імкненьні, як і свае собскія. Такія расейскія палітыкі, як успомнены ўжо сп. Алексінскі або памерлы перад двума гадамі Фядотаў, што правы гэтыя вызнаюць, належаць да рэдкіх выключэньняў. Імкнуліся-б нерасейскім народам да фэдэрацыі з Расеяй, дык гэта раўназначна было-б з тым, калі-б безбаронныя авечкі дамагаліся ўпусьціць ваўка ў сваю аўчарню.

Да якой тады катэгорыі залічыць людзей, якіх Амэрыканскі Камітэт і сп. Алексінскі называюць фэдэралістымі? Адказ просты, і яго вызначае ўжо сама практычная дзейнасьць гэтых «фэдэралістых» або іхнае, чыста каньюнктуральнае паяўленьне: гэта або людзі купленыя ў даслоўным значэньні, як і нашыя «фэдэралістыя» з ласкі СБОНР-у, або ў сваей ідэялёгіі незалежнікі ці «сэпаратыстыя», якія сьвядома пайшлі на часовы палітычны апартунізм, уважаючы, што гэтым болей выйграюць, чымся страцяць.

І адныя й другія ёсьць сяньня ў КЦАБ-е. Як ведама, ёсьць там «нацыяналы» першае групы, г. зн. купленыя, якія, як правіла, на кажным кцабаўскім паседжаньні падыймаюць рукі толькі тады, калі іх падыймаюць падчас галасаваньня й Расейцы. Але было-б несправядлівым залічаць усіх нерасейскіх сяброў КЦАБ-у да гэтае катэгорыі «фэдэралістых». Пераважаючая бальшыня іх, гэта, як мы ўжо зазначылі, у ідэялягічным», сэньсе тыя-ж самыя «сэпаратыстыя», але пайшлі на часовы палітычны апартунізм ня зь любові, але з чыстага вырахаваньня, што ў КЦАБ-е ўсё-ж такі ўдасца больш выйграць палітычна, чымся страціць, хаця добра здаюць сабе справу з таго, што гэты выйгрыш мусіць быць акуплены й паважнымі стратамі. Гэтым і тлумачыцца ўвесь той хаос, неразьбярыха, часамі вельмі камічныя сцэны і ўся няжыцьцяздольнасьць КЦАБ-у. Некаторыя «нацыяналы», як іх там пагардліва называюць, пабачыўшы, што іхныя палітычныя страты ў КЦАБ-е не раўнаважацца спадзяванымі выйгрышамі, як даведваемся з некаторых крыніцаў, наважаныя навет выйсьці з КЦАБ-у ў выпадку, калі ня будуць задаволеныя іхныя справядлівыя дамаганьні.

Усё гэта як ня трэба лепей паказвае, што штучнае тварэньне «фэдэралістых», як і змушаньне людзей да сьвядомага палітычнага апартунізму, як гэта паказала практыка КЦАБ-у, зьяўляецца справай вельмі непаважнай, нятрывалай і з гары асуджанай на няўдачу з аднačаснай кампрамітацыяй усіх тых, хто такой практыкай займаўся. Гэта і павінен мець на ўвазе ў першую чаргу Амэрыканскі Камітэт, які не пакінуў яшчэ думкі тварэньня супольнага з Расейцамі каардынацыйнага цэнтру пры ўдзеле гэтых «фэдэралістых».

**На заканчэньне яшчэ раз паўтараем, што за апошніх 35 год ад векапомнага Акту 25 сакавіка 1918 году сярод беларускага народу, ня гледзячы на розныя акупацыі, пад якімі за гэты час прыходзілася яму жыць, і незалежна ад частай зьмены палітычных абставінаў, ня было ніводнай беларускай партыі, ніводнай арганізацыі ці хоць-бы навет незарганізаванай групы, якая ў сваей праграме, як і ў практычнай дзейнасьці імкнулася да фэдэрацыі з Расеяй.**

**Алесь Крыга**

# Яшчэ раз аб каардынацыі й пагадненьні

(Заканчэньне з 2-ой балоны)

нічога не даваялі, бо й не маглі давесьці. Гэта датычыць найперш да бальшавіцкае спробы, як казалася, «крыць карту БНР другою картаю на адну літару большае БССР — акту абвешчаньня «незалежнасьці» Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі 1. 1. 1919 г., дакананага, бясспрэчна пад беспасярэднім уплывам і «ў піку», дзеля таго «перакрыцьця»-спаралiжаваньня Сакавіковага Акту.

Аднак, гэтае-ж датычыць і да спробаў пацьвердзіць і «ўдасканаліць» Вялікі Акт пастановамі г. зв. «Другога Кангрэсу» 1944 г. Гэтая спроба выглядае зусім жалюгоднаю, бо пацьвярджае толькі разарваньне сувязі з Расеяй, ані словам не ўспамінаючы пра самы асноўны прынцып гаспадарстваўскае незалежнасьці (пастанова «Кангрэсу», пункт 1: «Вызнаць правільнай і ўзноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая, маючы паўнамоцтвы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 г., на сходзе сваім 25-га сакавіка 1918 г. урачыста Трэйцяй Устаўной Граматай да Беларускага Народу абвесьціла аб канчальным разрыве дзяржаўных сувязяў з бальшавіцкай Масквой і расейскай дзяржавай у ўсякіх яе формах». І ўсё!..). Куртатасьць гэткага пацьверджаньня зусім зразумелая: запраўдныя рэжысэры й апякуны «Другога Кангрэсу», навет прагараючы на Беларусі, ніяк не маглі дапусьціць і гаворкі аб незалежнасьці тэрыторыі аканаванай на ролю аднае зь інтэгральных частак усяго вялікага іхнага «лебэнсраўму»...

Неперавышаным, неперасяжным манумэнтам, які не патрабуе аніякіх «пацьверджаньняў», «удасканаленьняў» ці «дапаўненьняў» — высіцца Вялікі Сакавіковы Акт.

Хто «выбраў» і як «выбраў» прэзыдэнта БЦР і самую БЦР, гаварыць ня варта, бо гэта ўжо ўсім аж надта добра ведама.

4. Аднак, паводля К. Забужаніна «...БЦР — гэта жывы носьбіт нашае **суверэннае** (!) улады і такою яна застанецца да таго часу, **пакуль жывы прэзыдэнт Р. Астроўскі, або пакуль нейкі III-ці Ўсебеларускі Кангрэс не пакліча нечага іншага»** (падкрэсьленьні нашыя — А. С.), і далей: «БЦР, па моему, беларуская эміграцыя зьліквідаваць ня можа, бо-ж ніякая эміграцыя ня можа замяніць сабою кангрэсу, у якім бяруць удзел прадстаўнікі з Бацькаўшчыны!», а яшчэ далей К. Забужанін намагаецца неяк вывязацца, каб пераканаць нас, што БЦР — жывы насьбіт нашае «сувэрэннае» ўлады, бо-ж, **паводля яго, ня перашкаджае таму тое, што ўстанова гэтая паўстала ў часе нямецкае акупацыі і ейны прэзыдэнт спачатку быў** «фармальна» **зацьверджаны акупацыйнымі ўладамі, бо ён-жа** (прэзыдэнт), «свае паўнамоцтвы, якія меў ад акупацыйнай улады, зьлажыў II-му Ўсебеларускаму Кангрэсу, а апошні **аднагалосна паклікаў яго ізноў на гэтае становішча»** (падкрэсьленьне нашае — А. С.). Паспрабаваў-бы няхай гэны «кангрэс» ізноў «не паклікаць» зацьверджанага «фармальна» акупантамі прэзыдэнта БЦР! І наагул вельмі-ж ужо наіўна і сьмешна выглядаюць гэтыя «лёгічныя» выкладкі і новыя тэорыі аб «сувэрэннасьці улады вызначанай ці зацьверджанай акупантамі!

Калі ўжо так вельмі хочацца К. Забужаніну, то хай сабе для яго застаецца далей гэтая «сувэрэнная» ўлада да таго часу, «пакуль жыве прэз. Р. Астроўскі» (хай сабе жыве на здароўе шмат гадоў. нічога да яго асабіста ня маю!), але захавай нас усіх Божа і нашую Бацькаўшчыну ад **«нейкага»** III-га кангрэсу, які меў-бы ўзноў паклікаць «нешта іншае»!

Беларускі народ на працягу апошніх 35 гадоў змагаецца не за «нешта іншае», а толькі за аднаўленьне свае Народнае Рэспублікі, што не патрабуе ніякіх пацьверджаньняў ніякім акупантамі.

Вяртаючыся-ж ізноў да г. зв. Беларускай Цэнтральнай Рады ў сучасным ейным выглядзе, то, з чыста навет «фармальнага» гледзішча, як кажа К. Забужанін, яна ня мае больш ніякіх праўных падставаў на існаваньне, бо яшчэ «23. 9. 1945 г. Р. Астроўскі ў Вюрцбургу склікаў паседжаньне пленуму БЦР, на парадку дня якога сам паставіў адно пытаньне: разьвязаньне БЦР. Пленум БЦР прыйшоў да выснаву, што БЦР сваю ролю споўніла й далей існаваць і дзеіць ня можа. Таму на прапанову Р. Астроўскага, які сам і кіраваў паседжаньнем пленуму, пленум БЦР 24.9.1945 г. аднагалосна пастанавіў аб разьвязаньні БЦР і перадачы ўсяе свае наяўнае касы — Беларускаму Нацыянальнаму Цэнтру. **Гэтая пастанова пленуму БЦР ёсьць апошняй праўнай дэцызіяй БЦР, якая й замыкае сабою ейную гісторыю»** (гл. ліст былых сяброў БЦР у № 15 (18) газ. «Бацькаўшчына» ад 9. 5. 1948 г.).

Аднак із усяго гэтага, я-ж не раблю выснаву, як К. Забужанін у дачыненьні да Рады БНР, што цяперашняя, новая БЦР ёсьць фікцыя, не — гэта ня фікцыя, бо там ёсьць жывыя людзі, але гэта няпраўная, непатрэбная, няжыцьцёвая і ня прэсьціжовая ў сучасных варунках арганізацыя, сваю ролю яна згуляла ў пэрыяд акупацыі, як пэўны «эрзац», паводля тэрміналёгіі К. Забужаніна, абмежанага самакіраўніцтва. Эрзац гэты быў патрэбны тады акупантам, каб прыцягнуць да супрацоўніцтва большую колькасьць Беларусаў, а прадстаўніком беларускага народу дзеля таго, каб вырваць ад акупанта тое, што ўдасца, каб захаваць свае кадры, усьцерагчы, як мага, свой народ ад вынішчэньня.

Дзеля гэтага ніколі ня варта падыходзіць да гэтых праблемаў з чыста суб'ектыўнага гледзішча, зь гістэрыяй, што «былі-ж там запраўдныя беларускія патрыёты», або, што «у БКА ішла наша сьведамая нацыянальна моладзь і вайсковыя песьні гэтае моладзі выконваюцца й цяпер зь ня меншым уздымам», ды трубіць увесь час аб модным цяпер «дэмакратызьме», які праз адну толькі голую дэклямацыю ніяк не становіцца запраўдным дэмакратызмам.

Так усё гэта было, былі патрыёты і ёсьць яны, была нацыянальна сьведамая моладзь і, дзякаваць Богу, ёсьць і цяпер.

Падыход павінен быць зусім аб'ектыўны, спакойны, гістарычны, ня з гледзішча сваіх асабістых сымпатыяў ці антыпатыяў да кажнай праявы грамадзкага жыцьця, а тым больш рэпрэзэнтацыі нашага народу з пункту гледжаньня дзяржаўнае традыцыі.

Дзеля ўсіх нас важным, жыцьцёвым ёсьць асноўны нацыянальны імпэратыў: **незалежнасьць, аднаўленьне гэтае незалежнасьці** — тут паміж запраўднымі патрыётамі ніякіх разыходжаньняў няма й быць ня можа. Калі кажны, хто ёсьць ці імкнецца быць гэтым патрыётам, усьведаміць сабе гэты імпэратыў раз і назаўсёды, адкіне ўсё іншае пабочнае, уздымецца панад сваё асабістае, часамі вельмі дробненькае, а гляне на ўсё з вышыні гістарычнае пэрспэктывы на шляхі разьвіцьця вызвольнага ходаньня нашага народу, то адразу яму стане ясна ўся нашая сучасная ідэялягічная база і тое карыснае, мэтазгоднае й патрэбнае, што неабходна цяпер усімі сіламі падтрымоўваць і вакол чаго кансалідаваць усе свае сілы.

У падобным супольным фронце знойдзецца месца для кажнага, ня гледзячы на ягоныя папярэднія памылкі, сымпатыі ці антыпатыі. Гэта аднак магчыма толькі пры аднэй умове: адкінуць утаж-самліваньне асобаў, што кіруюць ці ёсьць сябрамі тэй ці іншай арганізацыі, з мэтамі, заданьнямі і гістарычнай апраўданасьцю існаваньня тых арганізацыяў.

Таму К. Забужанін і баіцца, што «сама дыскусія на гэтую тэму ўжо сьветчыць аб тым, што будзе трудна пераканаць адным другіх у слушнасьці тых ці іншых падставаў», але ён мае рацыю, што «пры чэсным, аб'ектыўным падыходзе да гэтага пытаньня разьвязаць, аднак, яго можна».

Толькі мала задэкляраваць «аб'ектыўнасьць» і чэснасьць», — трэба іх прытрымоўвацца, бо беспадстаўныя, галаслоўныя пагрозы «карным кодэксам» ці конскія алюзіі аб «Беларускім Дзяржаўным Банку з фальшаваньнем савецкіх чырвонцаў» ні ў якой меры ня вяжуцца із «галоўна **дэмакратычным** падыходам да справы».

**Нью Ёрк, пачатак травеня 1953 г.**

**Андрэй Сьвіслацкі**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Беларускае Жаночае Згуртаваньне ў Нямеччыне паведамляе, што за час ад 1 студзеня да 1 травеня 1953 году атрымала наступныя ахвяры:

1. Ад БАЗА ў Саўт Рывэр праз сп. Кажуру — 197,44 ДМ, 2. Ад БАЗА ў Саўт Рывэр праз сп. Ханяўку — 287,73 ДМ. 3. Ад Беларускага Жаночага Згуртаваньня ў Кліўленд праз сп. К. Чэрнік — 92,99 ДМ. 4. Ад Жаночага Згуртаваньня ў Кліўленд праз сп. Чэрнік — 212,67 ДМ. 5. Ад Царкоўнай Рады ў Нью Ёрку праз сп. Орсу — 83,90 ДМ. 6. Ад БАЗА ў Маспэт праз сп .сп. Арцюх і Рытэр — 135,52 ДМ. 7. Ад Фонду Хворых у Бэльгіі — 125 ДМ. 8. Ад сп. Орса (ЗША) асабістая ахвяра — 33,36 ДМ. 9. Ад сп. Арцюх (ЗША) асабістая ахвяра — 20,85 ДМ. 10. Ад сп. Каранеўскай (Аўстралія) — 27,05 ДМ. **Разам — 1.226,51 ДМ.**

Апрача гэтага атрымана ў натуры:

1. Ад сп. Барт. (Нямеччына) бялізна — 1 пачок. 2. Ад Згуртаваньня Беларусаў у Новай Паўдзённай Валіі вопратка — 2 пачкі. 3. Ад Жаночага Згуртаваньня ў Брысбэйн праз сп. Яцкевіч вопратка — 1 пачок. 4. Ад сп. М. Станкевіч (ЗША) вопратка — 1 пачок. **Разам — 5 пачкоў.**

Дакладная справаздача аб разьмеркаваньні грошаў і адзежы будзе пададзеная да агульнага ведама ў наступнай справаздачы з дапамоговай дзейнасьці Беларускага Жаночага Згуртаваньня за першае паўгодзьдзе 1953 г.

**Беларускае Жаночае Згуртаваньне ў Нямеччыне.**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА КАМІТЭТУ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

Ад 1 студзеня да 1 травеня 1953 году Камітэтам былі атрыманыя наступныя ахвяры для патрабуючых дапамогі Беларусаў у Нямеччыне:

| | |
|---|---|
| 1. Ад БАЗА ў Нью Ёрку праз сп. Б. Вержбаловіч . . . | 291,90 ДМ |
| 2. Ад сп. М. Рагулі (асабістая ахвяра) . . . . . . . . | 41,70 » |
| 3. Ад Саюзу Моладзі ў ЗША праз сп. М. Тулейку . . . | 166,80 » |
| 4. Ад БАЗА ў Нью Ёрку праз сп. Б. Вержбаловіч . . . | 191,82 » |
| **Разам** | **692,22 ДМ** |

Апрача гэтага ў натуры:

| | |
|---|---|
| 1. Ад сп. Сажыча з ЗША адзяжовы пачок (асабістая ахвяра) . . . . . . . . . . | 1 пачок |
| 2. Ад БАЗА ў Нью Ёрку адзежу праз сп. Б. Вержбаловіч | 4 » |
| **Разам** | **5 пачкоў** |

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне прыносіць усім ахвярадаўцам шчырую падзяку. Падрабязныя вынікі разьмеркаваньня дапамогі будуць пададзеныя ў друку ў справаздачы аб дапамаговай дзейнасьці за першае паўгодзьдзе 1953 году.

**Мюнхэн, 25. 4. 1953.**

**Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне**

Апрача гэтых кніжак я ўзяў яшчэ іншыя падручнікі ў розных галінах нашага жыцьця і «палітэканомію ў пытаньнях і адказах». Узяўшы апошнюю ў рукі, я задаў сабе некалькі пытаньняў і, зачыніўшы вочы, адказаў на іх.

Паверх кніжак я паклаў яшчэ складаны зэдлік і столік і ўсё гэта ўціснуў вяроўкамі. Ад натугі засопся і сеў на лаву.

— Сапрон, ідзі палуднаваць! — клікнула маці бацьку.

Елі моўчкі. Мне хацелася распачаць спрэчкі, але матка, як відаць, сваячасова мірганула бацьку і дала яму дырэктывы маўчаць.

Як падмацаваліся, матка, прыбіраючы стол, запыталася ў бацькі:

— Паедзеш ты ці не? Калі думаеш, дык трэба думаць. Каб ня было позна? Усёроўна трэба-ж ехаць!

— Каму трэба, няхай едзе! Няхай ідзе ды сам запрягае.

— І пайду! Запрэгчы нядоўга — сказаў я і вышаў на двор.

Але ня ведаў я ўсіх тонкасьцяй бацькавага рамяства і развучыўся вазёкацца. На вучоныя лез! Доўга я марудзіў, шукаючы даўно знойдзеныя Амэрыкі. То гужы кароткія, то кляшчы ня сходзяцца, то яшчэ якая хвароба. Нават не з таго боку пачаў дугу ўстаўляць.

Вышаў з хаты бацька і з пагардай глядзеў на мае апэрацыі.

— Куды ты сунеш? Ня гэтак! У другую дзірку! Мацней нацягвай! Нагою ўпірайся!

Бацька злосна плюнуў, падышоў да кабылы і перарабіў усё пасвойму.

— Гэта табе ня рэзалюцыі выносіць! — закончыў ён і пашоў у хату.

На разьвітаньне із мною прышлі з поля мае сёстры. Яны мяне вельмі паважалі, глядзелі на мяне, як на вялікую шышку. Цалуючы старэйшую сястру Ганульку, я сказаў:

— Замуж не сьпяшайся, асабліва за Яўмена. Я табе знайду добрую пару!

Ганулья троху адукаваная, тры зімы хадзіла ў школу. Як прыбярэцца калі, дык вельмі падобна да інтэлігенткі, хоць бацька і дражніць яе ў гэты час «чыпірадлай». Я не разумею, які сэнс бацька ўкладае ў гэта слова, але Ганулька вельмі ня любіць гэтага слова.

Матка троху сьлёзак сьпкінула і зноў наказала мне, каб быў асьцярожным і трымаўся за пасаду.

Пад акампанімэнт матчыных знаёмых мне сьпеваў узьлез я на воз. З правага боку да мяне падсеў бацька, і нашы калёсы выкаціліся з двара.

### II. НА НОВЫМ МЕСЦЫ

Кабылка наша, хоць і была задаволена на ўсе 100%, але вельмі слаба пасоўвалася ўперад. І маці мая, такім чынам, памылілася. Мы нанач ня прыехалі ў Шапялёўку. Мала гэтага. Усю ноч ішоў моцны дождж. Мы ехалі вярстоў з 20 лесам, і некуды было схавацца ад залевы. Ніякае дрэва не магло быць хаўрусьнікам у нашым змаганьні зь нябесным самагонным апаратам, бо ўвесь лес яшчэ толькі пачынаў абрастаць лісьцем, і яно не ратавала нас.

Прыехалі мы на месца, як пачало разьвідняць. Былі мы мокрыя. Раньне выдалася прыгожае, сьветлае, бліскучае. Усе мае вочы прамоклі дашчэнту і ад гэтай незадачы настрой мой і тэмпэратура цела значна зьнізіліся.

Усё раньне сушыўся я, сьцінуўшы зь сябе ўсю вопратку і застаўшыся, у чым маці нарадзіла. Я зрабіў прапанову, каб і бацька на гэткі манер прасушыўся, але ён зарагатаў.

— Ня хочу сядзець голым апосталам, як ты! І так падсохне, ды яшчэ хутчэй, як у цябе!

Сон ня йшоў да мяне, і я голы шпацыраваў па пакою. Бацька глядзеў на мяне ды ўсьміхаўся ў сваю сівую бараду. Што да маіх рэчаў, ці «прычындалаў», як кажа бацька, дык аб іх я падумаў у першую чаргу і зрабіў такія практычныя мерапрыёмствы. Я вынес іх на заезджы двор і пачаў разьвешваць на частаклеце, досыць новым і яшчэ не зацэцканым.

А бацька ў гэтым кірунку прытрымліваўся наплявізму і нават угаварваў мяне:

— Не сором сябе прад людзьмі, цэлы гамазын паразьвешваў тут!

— У цябе, бацька, кунктатарская тактыка! Прапусьцім час — і рэчы папсаваны.

Зразумела, што мае рэчы прыцягнулі ўвагу самых шырокіх мас. З самага раньня народ кучкамі праходзіў каля заезджага дому й ўва ўсе вочы глядзеў на «прычындалы». Мне гэта троху псавала кроў, асабліва, калі я на свае вушы чуў мяшчанскія праклямацыв, што «прыехаў альбо пан, альбо а грэйсэ шышкэ». О, чэрці перапялёсыя, гнойнікі мяшчанскія! Каб у вас на носе села а грэйсэ шышкэ!

У выканкоме праца ўжо йшла, калі я прышоў туды. Я лічыў пытаньнем выключнай важнасьці разьведаць пра сваё начальства ўсё, што можна, і яшчэ ў заезджым доме мяне інфармавалі, што старшыня РВК цяпер у разьездах па раёне, што ён зь сялян, зусім просты чалавек, жанаты, здаецца, і прыплод ёсьць, здаравякмахіна і ўпарты, як вол. Яго нядаўна сюды прыслалі, бо ведалі, што толькі ён можа зьнішчыць галавацяпства Шяпялёўскіх установаў. «Як бачу, маналітны чалавек!» — падумаў я.

Некаторыя дадатковыя неабходныя весткі атрымаў я ад кур'ера РВК, якога я сустрэў, ідучы ў РВК, і якому сказаў, што я прыехаў на пасаду загадчыка культаддзелу.

Першае, што я ўзяў на ўвагу, калі ўвайшоў у вагульную канцылярыю выканкому, была машыністка. Яна сядзела каля вакна і задумёна татахала на машынцы.

Каля дзяўчыны мітусіліся дзелаводы, перапісчыкі, падсоўвалі ёй свае паперы і спрачаліся між сабою за чаргу. Кажны зь іх пахмыляўся, нахабна глядзеў ёй у вочы, блізка дыхаў на яе, часам мармытаў ёй два-тры словы. Яна давала гэтаму мінімум увагі і, мусіць, канкрэтна разумела сваю задачу.

Яе аблічча адразу ўціснулася ў маю памяць. Троху ўдоўжаны твар, з шырока-адчыненымі, чорнымі і троху гульлівымі вачамі, кучаравыя, чарнявыя, абчыкрыжаныя на гарадзкі манер валасы, нос зь невялікім горбікам і зграбная постаць з прыгожымі курганчыкамі грудзей — усё гэта адразу асьвяжыла маю кроў, надало мне бадзёрасьці, якую я страціў быў у мінулую мокрую ноч.

А вакол гудзеў народ, шчырчэлі пёркі скрыбаў, з шолахам пераварачваліся аркушы паперы, рыпалі дзьверы шафаў, із стогнам перакладваліся зь месца на месца вялізныя, тоўстыя кнігі зь лічбамі сялянскага жыцьця.

Я спыніўся на хвіліну і моўчкі завастрыў сваю ўвагу на дзяўчыне. Яна павярнула сваю галаву ў мой бок і зірнула на мяне. Хацела зноў узяцца за справу, але я ўпарта глядзеў на яе і хацеў накіраваць яе думку на сябе. Я выцягнуўся і стаяў перад дзяўчынай высокі, уважысты, зь сьвежым мужным (праўда карпано-

# Гэта было у Маскве

(Заканчэньне, глядзі № 19)

Із цэлай сэрыі тартуфаўскіх мерапрыемстваў крэмлёўскіх янусаў, меўшых на мэце ўсыпіць пільнасьць і накіраваць народны гнеў у хвальшывае русло, на асаблівую ўвагу заслугоўвае Другі Зьезд Кальгасьнікаў СССР, склíканы ў лютым 1935 году. Сталіца напоўнілася сялянамі ўсіх нацыянальнасьцяў імпэрыі. Тысячы й тысячы простых, чэсных і нічога не падазраючых працаўнікоў палёў, загнаных у калгасы, карміліся на дзяржаўны кошт, атрымлівалі дзяржаўныя падарункі, наведвалі сталічныя тэатры й музэі, запрашаліся групамі ў госьці да сяброў першага й другога сорту алімпу, фатаграфаваліся зь лідарамі Крэмля. Балоны цэнтральнай прэсы літаральна былі запоўненыя фатаграфіямі дэлегатаў. У залі паседжаньняў зьезду, у Вялікім Крэмлёўскім Палацы, панавала атмасфэра запамарочаньня мазгоў. Псыхоза была даведзеная да таго, што пры найменшым напамінаньні імя мудрага правадыра ўспыхвалі авацыі. Бальшыня ўдзельнікаў зьезду не разумела расейскае мовы, амаль што ўсе слаба разьбіраліся ў тонкасьцях хітрай палітыкі, і сталінцы маглі тварыць усё, што ім было патрэбнае.

Аднак найбольш фантастычнае сталася з Мікалаем Бухарынам. Як я ўжо апісаў у папярэдніх разьдзелах, яго лічылі чымсьці ў родзе «прыяцеля» селяніна, абароньнікам кулака і пад. Я ўжо паказаў у прыватнасьці, як на сходзе патрабавалі ад мяне адказаць на пытаньне: за каго ты, за Сталіна ці за Бухарына? І вось цяпер Сталін пастанавіў выкарыстаць гэтыя сялянскія эмоцыі. Спачатку памясьціў партрэт Рыкава, найбліжшага прыяцеля Бухарына, у газэце «Праўда», вось-жа, глядзіце ўсе, які я лібэрал: раблю ўступкі абароньнікам сялян. А потым вызваў самога Бухарына на паседжаньне палітбюра і запрапанаваў яму выступіць на зьезьдзе з прамовай, паказаць сваю поўную згоду зь генэральнай лініяй партыі, із сталінскім курсам у сельскай гаспадарцы. Гэта ня выдумка, — сам Бухарын гаварыў нам.

Дык вось «абароньнік кулака» ўзышоў на трыбуну сялянскага зьезду. «Бухарын!» — усхвалявана гаварылі адны. «Няўжо Бухарын?» — з хваляваньнем ляцелі ледзьве чутныя пытаньні. І «абароньніку селяніна» зрабілі бурную авацыю да таго, пакуль ён пасьпеў раскрыць рот. Потым пачалася й сама прамова. Як заўсёды, яна была яркай, сакавітай, бліскучай у форме і паражаючай у зьмесьце. Яна, узапраўды, выступіла ў вабароне рэакцыйнага сталінскага рэжыму. Бухарын, галоўны вораг сталінскай палітыкі надзвычайных мераў, зрабіў свайму сьмяротнаму ворагу ні з чым непараўнаную ўслугу, прынёс вялізарную шкоду ўсяму апазыцыйнаму руху. Яго выступленьне, незалежна ад запраўдных прычынаў паяўленьня на зьезьдзе, пасеіла дапаўняючую суматоху, пэсымізм, расклад, пачуцьцё беспэрспэктыўнай капітуляцыі. Капітуляцыйныя настроі папалі на вельмі падатны грунт. «Бухарын разам із Сталінам!», «Бухарын і Сталін стаяць за селяніна!», «між Сталінам і Бухарынам няма больш разыходжаньняў», «калі Сталін запрасіў Бухарына на сялянскі зьезд — значыцца ён пайшоў на ўступку Бухарыну». Прыкладна такія прымітыўныя настроі атрымалі шырокі ход у сьведамасьці дэлегатаў зьезду. Тадышні кіраўнік сельскагаспадарскімі мерапрыемствамі партыі Якаўлеў ня прыпадкова заявіў, што пасьпех зьезду быў вырашаны наперад згодаю Бухарына выступіць на ім.

Я павінен, я забавязаны адцеміць, што, быў-бы я ў тыя дні яшчэ на волі, бясспрэчна палажыў-бы свой подпіс пад рэзалюцыяй, кваліфікаваўшай паступак Бухарына капітулянцкім, рэнэгацкім і зрадніцкім. Тую самую рэзалюцыю, якую пазьней уручылі яму мае рукі, і на якую ён рэагаваў толькі маўчаньнем. Праўда, ён зразумеў недапушчальнасьць свайго кроку, але было ўжо позна. Для выпраўленьня небясьпечнай памылкі і для новага заваяваньня даверу тых, якія яму верылі, патрэбны быў час, а яго сталінцы ня зьбіраліся даваць каму-б гэта ня было: Бухарына чакаў арышт і расстрэл. Ён зразумеў, што Сталін выкарыстаў яго, як анучу для чышчэньня ботаў, а потым выкінуў на сьметнік, але папрaвіць было ўжо немагчыма. Адзінае, што ён мог яшчэ запрапанаваць нам, — гэта наступныя ягоныя словы: вучыцеся на маіх памылках і помніце, што ў Сталіна сумленьне заўсёды ў пылу.

Вельмі добра. Але, на жаль, вельмі шмат памылак было за сьпіной Бухарына. Мы не маглі забыцца, у прыватнасьці, аб ягоным выступленьні на XVII зьезьдзе. Мы не маглі вучыцца на бесьперапыннай сыстэме памылак, — час быў асаблівы й патрабаваў больш дастойных дзеяў. А што ў Сталіна сумленьне ў пылу, — аб гэтым мы самі ведалі ня горай Бухарына. Аб гэтым сьветчыць і той факт, што навет напярэдадні арышту ён адкінуў папярэджаньне аб пагражаючай яму небясьпецы, заявіў даслоўна: думаю, што Сталін да гэтага ня дойдзе . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І так, вы бачыце, што крэмлёўскія Янусы Двулічныя вялі падвойную ігру: аднэй рукой лашчылі — другой душылі, аднэй раздавалі ордэны — другой расстрэльвалі, аднэй цягнулі на банкеты ў Крэмлі — другой у падвалы. К лету 1935 году першая рука атрымала найбольшую яўнасьць, а другая перайшла ў дзяржаўнае падпольле, аб ей перасталі пісаць. Стварылася ўражаньне, што СССР канчальна перайшоў да палітыкі міру, заспакаеньня жыцьцёвых патрэбаў масаў, добрасуседзкага існаваньня з вонкавым сьветам. Але гэта была цішыня перад бурай. Гэта была палітыка перніка, каб падгатаваць палітыку штыха. Гэта было «мірнае наступленьне», якое мела на мэце выйграць час, разлажыць праціўніка, сабраць сілы і потым перайсьці ў становчае наступленьне. Гэта была кіруючая лёсам веха ў нашай гісторыі, якую трэба апісаць ува ўсіх падробнасьцях . . .

**Г. А. Такаеў**

---

**Падпіска на год — з разьліку 52 нумары ў год, на паўгода — 26 нумароў і на 3 месяцы — 13 нумароў паводля вышэй пададзенай цаны за адзін нумар.**

**Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 амэр. цэнтаў за адзін нумар.**

**Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

# ПАДЗЯКА

## Беларусам на чужине

Кароткае, афіцыяльнае і, здавалася-б, сухое паведамленьне, якое на іншым месцы друкуем у гэтым нумары, але гаворыць яно шмат.

Прыгледзімся да яго бліжэй, расчытаем гэныя лікі ды застановімся, аб чым яны гавораць і якое вялізарнае маюць значэньне ў жыцьці пакрыўджаных лёсам нашых суродзічаў у Нямеччыне. Гэтыя лікі гавораць насамперш аб тым, што на маленькую іскярку ініцыятывы падзьмуў прыязны вецер, іскра зьмянілася ў маленькі агеньчык, а той шугануў прыгожым зыркім полымем, якое не павінна ўжо згаснуць. Цяжкі ёсьць толькі пачатак, вось каб толькі ўздужаць, распаліць жменьку людзей прыгожай ідэяй, тады парывае яна шырэйшы гурт. І дужэе добры пачын, а зь ім растуць маральна й людзі.

Але вернемся да нашых лічбаў. Пастараймася зразумець іхную вымову.

Ад БАЗА, аддзел ў Саўт Рывэр, атрымана 197,44 + 287,73 = 485,17 марак для хворых, інвалідаў, калекаў. У надрукаваным сьпісе ахвярадаўцаў (газэта «Беларус» № 8) фігуруе 40 прозьвішчаў, якія ахвяравалі 287,73 ДМ на вялікоднае яечка. Ахвяры пераважна па 1—2 даляры, часам і большыя, па 5 даляраў (сп. сп. Б. Даніловіч, В. Стома, сп. сп. Ханяўкі, сп. сп. Родзькі, Русак), а часм і зусім малыя, у цэнтах, але аднолькава патрэбныя, прынятыя з удзячнасьцю. А за гэтай досыць саліднай сумай у 485,17 ДМ бачым працу самаахвярных адзінак, якія заініцыявалі й правялі зборку.

Чытаем далей: ад Беларускага Жаночага Згуртаваньня ў Кліўленд: 92,99 + 212,67 = 305,66 ДМ. Грошы гэтыя сабралі жанчыны з Кліўленд на чале із сп. К. Чэрнік падчас супольнай сустрэчы Новага Году і перад Вялікаднем. Сума гэтая вырасла з большых ахвяраў: па 5 дал. (сп. сп. М. Белямук, К. Чэрнік) і меншых па 2—3 дал. (сп. сп. Карніловіч, Сацэвіч, М. Шыкалюк, А. Каханоўскі, Страпко, Літвінка, Дунец, Шастак, Каваленка, Кабяк і іншыя).

Але найбольш кранае сэрца зборка паміж дзяцей у Маспэт пад клічам «Дзеці Дзецям». Праўда, некалькі дарослых асобаў падмацавалі сваімі ахвярамі добры пачын, а рэалізавалі й магчыма былі яго ініцыяткамі сп. сп. І. Арцюх і І. Рытэр. Наймалодшыя нашыя Беларускі й Беларусы з Маспэт за заашчаджаныя свае цэнты, якія ў суме далі даляры, выслалі 7 прадуктовых пачкоў дзецям у Нямеччыне, навязваючы пры гэтым лістоўную зь імі карэспандэнцыю.

Вось больш менш тое, што можна прачытаць у Паведамленьні.

За ўсю затрачаную на гэтую акцыю энэргію пры зборцы, за ініцыятыву й самыя ахвяры дзякуюць Вам Вашыя суродзічы ў Нямеччыне!

Вось некалькі словаў ад іх:

**«Дарагія Маткі й Сёстры! Я, Янка Каламар, складаю Вам сардэчную падзяку, за тое, што Вы адгукнуліся на нашую просьбу, якую мы да Вас выслалі. Я вельмі быў рады помачы, каторую Вы аказалі мне, як пачком, так і грашыма. Дарагія Маткі й Сёстры! Няхай Вас не забудзе Бог, няхай Ён Вам паможа, так як Вы не забылі й памаглі нам, чым маглі. Няхай паможа Вам Госпадзь працавць і дапамагаць свае Бацькаўшчыне, а таксам й сыном сваім і сёстрам, якія ляжаць прыкаваныя да пасьцеляў. Даруйце, Маткі й Сёстры, што так мала і брудна напісаў, бо ляпей ня ўмею пісаць.**

**Жыве Беларусь! На векі вякоў!**

**ГАЎТЫНГ ЯНКА КАЛАМАР»**

*

**«Высокапаважаныя! Цяжкая доля сустрэла нас на выгнаньні і асабліва тых, што цераз даўгалетнюю хваробу страцілі сваё здароўе і таксама магчымасьць самаўтрыманьня з працы ўласных рук. Ужо 3-ці год я знаходжуся ў санаторыі Гаўтынг, а мая сям'я пакуль што ў Фэльдмохінгу. Пра нашыя матарыяльныя магчымасьці нічога ня пішу. Вы напэўна самі добра ўяўляеце. Хачу толькі сказаць, што Ваша дапамога была нам даручана ў той момант, калі мы яе найбольш патрабавалі, а таму дазвольце выславіць усім Вам пачуцьці нашай глыбокай удзячнасьці і пашаны.**

**24. 3. 1953. У. ПАДГАЙСКІ с сям'ёю**

*

**«Шчыра дзякую Богу і Вам, мае дарагія жанчыны, за атрыманы пачок. Цяпер я магу паддзержываць сваё здароўе. Я ўжо сёмы тыдзень ляжу ў шпіталі й ня ведаю, калі выйду, хварэю на вантробу й рэўматызм ног. Таксама ўдзячная Вам уся мая сям'я, Вам, якія не забыліся нас бяздольных на чужыне. Жадаем, каб Ваша Згуртаваньне расло й дужэла надалей.**

**ЛЯНДСГУТ. ДАВІД БУДНІЦКІ»**

*

**«Мы атрымалі Ваш пачок, які нам вельмі дапамог у сьвяце. Хрыстос Уваскрос! Няхай нашая старонка Беларусь ускрэсьне к лепшаму жыцьцю!**

**БРАЎНШВАЙГ. ІВАН КАВАЛЕЎСКІ»**

*

**«Зь вялікай радасьцю паведамляем, што пачок, высланы Вамі, атрымалі, які прынёс нам нечаканую вялікую радасьць, за што шчыра дзякуем і жадаем усяго добрага і плённай працы!**

**ІНГОЛЬШТАДЕ**

**Сям'я УЛАШЧЫКАЎ»**

*

**«Дарагія мае браты і сёстры! Дужа Вам дзякую за сьвяточны падарак грашыма й за тое, што Вы не забываецеся на нас няшчасных хворых у чужым далёкім краю, ды яшчэ бяз родных. Я буду маліць і прасіць Госпада Бога за Вас і за Ваша здароўе таму, што Вы не забылі мяне адзінокую.**

**МАРЫЛЯ БАМБЯКОВА»**

*

**«Хрыстос Уваскорс! Узапраўды Ўваскрос! Як гэта прыемна ў такі Вялікі Дзень знайсьці на чужыне, ня будучы сярод сваіх родненькіх і блізкіх знаёмых, блізкіх па крыві землякоў і зямлячак. Дзякую Вам, даражэнькія, за вялікодны пачок. Прайшло і ў нас Вялікадня з скваркай, а навет із чаркай. Жыве Беларусь!**

**«ВАЛЬКА» каля НЮРНБЭРГУ**

**ПЯТРО ЕРМІН»**

*

Падобных пісьмаў прыходзіць у Жаночае Згургаваньне шмат, гавораць яны аб адным: дзякуюць і просяць і ў далейшым не пакідаць тых, што гэтае сьціплыя дапамогі нязвычайна патрабуюць.

Хацелася-б каб гэтыя вось пісьмы кранулі сэрцы і тых нашых выэміграваўшых суродзічаў, якія стаяць у баку ад усей гэтай акцыі і яшчэ даслоўна нічога на гэтую мэту не ахвяравалі. А дапамагаць патрабуючым яны могуць, яны гэта рабіць павінны, гэта іхны маральны абавязак. Лік патрабуючых дапамогі ў Нямеччыне вялікі, даходзіць да 500 спэцыяльна зарэгістраваных дзеля нясеньня дапамогі чалавек. Хочам верыць у добрую волю й глыбокія людзкія пачуцьці нашых людзей, хочам надзеіцца, што й яны возьмуць прыклад з маленькае групкі нашых суродзічаў, якія ўжо пачалі даваць сыстэматычна на справу дапамогі для дзяцей, старых, хворых і калекаў у Нямеччыне. Дык няхай-жа шляхотная акцыя дапамогі ня будзе справай толькі адзінак, як было дагэтуль, але ахопіць дослоўна ўсіх Беларусаў, што выэміграваліі зь Нямеччыны, няхай яна станецца акцыяй сыстэматычнай і бесьперапыннай кажнага з нас!

**З. С.**

**Сяброўка Жаночага Згуртаваньня.**

---

ХУТКА ВЫЙДЗЕ З ДРУКУ
АСОБНАЙ КНІЖКАЙ П'ЕСА Ў 4-ох ДЗЕЯХ ЯНКІ КУПАЛЫ

## «Тутэйшыя»

з абшырным крытычным нарысам ведамага беларускага літаратураведа Р. СКЛЮТА.

Цана аднэй кніжкі ў ЗША і Канадзе 1 даляр. Ува ўсіх іншых краінах раўнавартасьць аднаго амэр. даляра. Ужо можна прысылаць заказы разам з належнасьцю ў Нямеччыне на Адміністрацыю «Бацькаўшчыны», а ў іншых краінах на нашае Фінансавае Прадстаўніцтва ў Бэльгіі паводля наступнага адрасу:
Janka Zučka, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.

---

### ШУКАЮЦЬ

**Галіну й Віталію Фёдараву**, апошнія весткі пра якіх былі з Мэцэрыц (Нямеччына), шукае сваяк. Весткі слаць на адрас: Z. B. K. 49, Lefroy Rd., Kelmscott. W. A. Australia.

*

Усіх сяброў і знаёмых з Клецку й раёну **Драгаўца Валодзю, Бубна Івана, Калько Аляксандра, Цімаўца Барыса** і іншых, якія пражывалі ў Ангельшчыне, шукае **М. Кірсанаў.** Весткі слаць на адрас: M. Kirsanow, 14 Holborm Ave., Leig, Lanes. England.

---

сым) тварам чалавек. Я наўмысьне разглядаў яе, як цікавую, але непатрэбную ў нашым будаўніцтве рэч.

У першы момант дзяўчына нібы засаромілася, лёгкі налёт чырвані прабег па яе абліччы, але потым яна, відаць, урэгулявала сваю кроў. Дзяўчына сьмела і нават з пагардай пачала глядзець на мяне.

Некалькі хвілін цягнулася наша вочнае спаборніцтва. І вядома, перамога была на маім баку. Дзяўчына адвяла ў бок свае прыгожыя вочы, і яе пальчыкі няўпэўнена пачалі скакаць па машынцы, а грудзі парыўна заварушыліся пад тонкай кофтай.

Мне хацелася пагаварыць зь ёю.

Я пашоў да яе.

— Пакажэце мне сакратара РВК!

— Ён у габінэце старшыні.

— Старшыні яшчэ няма? Ня ведаеце?

— Ня бачыла. Здаецца яшчэ ня прыехаў.

Я прайшоў у габінэт, адчуваючы, што ў сьпіну мне глядзелі яе вочы. Адзначыўшы гэтыя становучыя вынікі маёй кароткай разомвы зь дзяўчынай, я ішоў у габінэт шырокімі, упэўненымі крокамі і нават сымляваў некаторую распусную развальцу ў хадзе, чаго звычайна ў мяне ня прыкмячалася.

Дзяўчына памылілася. Старшыня тав. Сом ужо вярнуўся з раёну і сядзеў у габінэце. Я назваў сябе. Старшыня сустрэў мяне досыць раўнадушна.

У яго нізкі, груззлы голас, самы звычайны, з усімі адценьнямі, сялянскі голас. Ні кроплі адукацыі ня бачна. Калі ён гаворыць, ад яго слоў у вагульным і цэлым пахне жытам, полем, непарушнай моц'ю лясоў і сенажацяў. І я канкрэтна разумею прычыну ўплыву яго на людзей.

Тав. Сом ня доўга гаварыў із мною. Я пашоў у вагульную канцылярыю прыняць справы. У маім веданьні два сталы, дзьве шафы і тры зэдлі.

Тут адразу вызначыўся шлях маіх дачыненьняў з машыністкай. Мае сталы стаялі побач зь яе столікам. Дзякуючы гэтаму, можна было бязь перашкод наглядаць за ёю.

Я на сябе заззлаваў не на жарты. Як-жа? Прышоў у савецкую ўстанову, атрымаў важную пасаду і зь першага моманту больш цікаўлюся спадніцай, чымся дзяржаўнымі справамі. Мне трэба адразу разьмежаваць свае функцыі ад функцыяў дзяржаўных.

Хачу зрабіць гэта, але ў першы дзень мне ня хочацца займацца справамі, і ўсю ўвагу прыцягвае яна.

Даведваюся, што завуць дзяўчыну Крэйна Шуфэр.

«Надзвычайна прыгожая яўрэйка!» — падумаў я і пасьля маленага змаганьня з сваім тэмпэрамэнтам вынес рэзалюцыю: зрабіць крокі да ажыцьцяўленьня самай шчыльнай сувязі зь ёю. Я нават пачаў у галаве намячаць трохгадовы пэрспэкцыйны плян майго закаханьня ёю і не заўважыў, як да яе століка падышоў малады белагаловы з блакітнымі вачыма чалавек.

Крэйна яму прыхільна ўсьміхнулася, неяк дзіцяча расчыніла рот і кіўнула галавой, а ён мэлянхольна працягнуў ёй руку.

Я запытаў у дзелавода, што гэта за Джэк-вантробшчык дзявочага сэрца. Дзелавод сказаў: — Гэта аграном Агнісьцік.

Аграном прысеў на рог стала і неяк сумна пазіраў на Крэйну.

Прышоў яшчэ настаўнік Юрлік, які, сказаўшы мне пяць слоў у галіне культпрацы, падсеў потым таксама каля Крэйны і пачаў чытаць інструкцыю аб карыстаньні жыцьцём. Ён павольна скруціў вялікую таўшчэнную цыгарку, прыляпіў яе да ніжняе губы, запаліў і, ня вымаючы яе з роту, гаварыў, гаварыў і гаварыў, апраўдваючы сябе ў нейкім злачынстве.

— Я быў п'яны тады, Крэйна! — паўголасам гаварыў ён. — У нелегальнай форме. А ты дурненькая... У цябе палітычная верлавокасьць, калі ты прыймаеш гэта ўсур'ёз.

— У цябе грубы падыход да жанчыны, — сказала Крэйна ціха. Думаеш, што яна жывёле... Вось і паляцеў, цяпер самому сорамна ў вочы глядзець...

— Крэйна, пагодзь мяне зь ёю! Я ня буду больш так рабіць! Ведаеш, я ня вінен у гэтым... У школе 3 настаўніцы, а я адзін хлопец, ну і шчыплю іх. А яны склоку між сабой завялі.

Пасьля я даведаўся пра гэту гісторыю. Юрлік незадоўга перад гэтым на нейкай вечарыне наладзіў сыстэматычнае паляваньне на жанчын. Першай ахвярай была настаўніца Зязюлька, якая публічна, у прысутнасьці шырокіх савецкіх мас, абразіла яго, папершае, абазваўшы яго высокакваліфікаваным хамам; па-другое, змазаўшы яго па твары нечаканай і выразнай па гуку поўхай; па-трэцяе, не пасьпеў Юрлік ачухацца і нейкую абарону ці рэабілітацыю прыдумаць, як Зязюлька новую поўху прыляпіла ўжо левай рукой і хутка зьнікла з вачэй усіх прысутных. Гэты інцыдэнт меў дзіўныя вынікі: настаўнік Юрлік загарэўся нястрымным імкненьнем да Зязюлькі і шукаў выпадку зноў па-сяброўску гаварыць зь ёю.

З габінэту вышаў старшыня тав. Сом, прашоў каля нашых сталоў, спыніў свае вочы на аграноме і настаўніку і роўным галасам заўважыў:

— Сталы ў канцылярыі зроблены не для сядзеньня. Таксама і курыць нельга: калі кажны будзе курыць, тут немагчыма будзе працаваць. Мне прыдзецца штрафаваць за парушэньне правілаў.

Сказаўшы гэта, старшыня пашоў далей.

Аграном замітусіўся і адразу страціў усю сваю мэлянхолію.

— Калі ў вас і зэдляў няма, — апраўдваўся ён перад Крэйнай і пачырванеў.

— Чаму ўсе дзелаводы кураць, ім дык можна! — сказаў і Юрлік.

— Ім можна, яны ўвесь час працуюць тут, а вы... — заўважыла Крэйна.

— А я набрыдзь? — усьміхаючыся запытаў настаўнік і пакінуў канцылярыю.

А мне дык вельмі спадабаўся гэты інцыдэнт. Я падумаў: правільна, трэба з дробязяў пачынаць, трэба ўсё браць на ўвагу. Памойму, у гэтым і ёсьць агульнае кіраваньне, неабходнае ў нашым някультурным жыцьці.

Прышоў яшчэ начміл Какоцька і, пабыўшы хвіліну каля Крэйны, прашоў у габінэт старшыні.

Я таксама пашоў туды. У мяне зьявілася шмат запытаньняў, якія трэба было зараз-жа вырашыць.

Тав. Сом слухаў справаздачу начміла.

— Мною праводзіцца ў жыцьцё такая пастанова, — пачаў гаварыць начміл, — каб да 1 траўня ўсе грамадзяне нашага мястэчка паставілі перад дамамі ліхтары, каб на вуліцах праклалі тратуары. На камунальныя сродкі і часткова за прыватніцкія думаем вясною забрукаваць вуліцу да РВК. Па-другое, неабходна забараніць каровам хадзіць па тратуарах. У мястэчку налічваецца каля 30 штук такіх інтэлігэнтных кароў, якія лічуць ніжэй свайго гонару ісьці па вуліцы. Мы думаем аслухных штрафаваць і першы раз браць у каровы 1 р., другі раз 2 р. і трэці раз 3 р.

(Далей будзе)